*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 17 лістапада 1989 г. № 46 (3508) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

# ЧАРНОБЫЛЬ: ЎЧОРА, СЁННЯ, ЗАЎТРА

**Трагедыя Чарнобыля стала для Беларусі нацыянальнай трагедыяй. Каб яе пераадолець, патрэбны сёння намаганні ўсяго народа, нацыянальная праграма ўратавання. Такой праграмай можа стаць Доўгатэрміновая праграма ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, прынятая XII сесіяй Вярхоўнага Савета БССР у кастрычніку гэтага года. Праграма выклікала вялікую цікавасць ва ўсёй нашай рэспубліцы.**

**10 лістапада ў Доме літаратара ў Мінску адбыўся агульны сход пісьменнікаў і работнікаў літаратурных выданняў. Па ініцыятыве партбюро СП БССР на сход былі запрошаны і выступілі першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР, старшыня камісіі бюро ЦК КПБ і СМ БССР па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС У. Еўтух, кіраўнікі некаторых міністэрстваў і ведамстваў рэспублікі. Сход вёў першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Н. Гілевіч.**

Прапануем увазе чытача справаздачу з гэтага сходу (стар. 2—3). (Матэрыялы, прысвечаныя праблемам Чарнобыля, друкуюцца таксама на стар. 12).



## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

**У нас ёсць нагода павітаць яшчэ раз і павіншаваць адзін аднаго.**

**31 кастрычніка закончылася падпісная кампанія на 1990-ы год. Падведзены папярэднія вынікі яе (праўда, яшчэ без уліку той часткі падпісчыкаў, што жывуць за межамі рэспублікі). І як стала вядома (гл. «Звязду» за 10 лістапада), колькасць падпісчыкаў на штотыднёвік «Літаратура і мастацтва» склала ў параўнанні з мінулагоднім паказчыкам 124,6 працэнта. Гэта значыць, што колькасць нашых пастаянных чытачоў вырасла на некалькі тысяч.**

**Мы вітаем новае чытацкае папаўненне. Мы дзякуем за ўвагу, за давер да штотыднёвіка. Мы выказваем таксама сваю ўдзячнасць усім, хто меў дачыненне да прапаганды і распаўсюджвання «Літаратуры і мастацтва» — работнікам аддзяленняў сувязі і «Саюздруку», грамадскім распаўсюджвальнікам і паштальёнам. Усім — вялікі дзякуй. І яшчэ мы запрашаем нашых чытачоў — як даўніх, так і новых — актыўна супрацоўнічаць з намі, выступаць на старонках газеты па ўсіх тых пытаннях, якія хвалююць сёння нас з вамі, усё наша грамадства. З свайго боку, калектыў рэдакцыі будзе імкнуцца апраўдваць давер і спадзяванні сваіх чытачоў.**

# МТЗ: не парадныя сустрэчы

Сустрэчы пісьменнікаў з рабочымі, сельскімі працаўнікамі... Праўда, ці не да апошняга часу насілі яны святочны, парадны характар, праводзіліся часцей за ўсё дзеля той славутай карандашнай птушачкі...

Нядаўна група літаратараў наведала Мінскі трактарны завод. І з першых жа крокаў па заводскай тэрыторыі паміж гаспадарамі і гасцямі ўсчалася сур'ёзная, прынцыповая, часам вострая і, кажучы па-руску, «нелицеприятная» гаворка. Адно з пытанняў, якое найбольш турбавала гасцей, — чаму на такім магутным, у многім перадавым прадпрыемстве пакуль што далёка не ўсё зроблена для аблягчэння ўмоў працы рабочых? Гэтае пытанне міжволі ўзнікала і ў цэху дакладнага стальнога ліцця, дзе працуе нямала жанчын, і ў цэху кабін, дзе, зноў жа, афарбоўкай займаюцца жанчыны...

Зацікаўленая размова адбылася пасля азнаямлення гасцей з работай галоўнага канструктарскага бюро і эксперыментальнага цэха. Галоўны канструктар завода П. Амельчанка расказаў, над чым працуюць трактарабудаўнікі. Асноўная ўвага скіравана на тое, каб даць надзейныя машыны калгасам і саўгасам; але нямала робіцца і для таго, каб забяспечыць так званай «малой тэхнікай» дробныя, у тым ліку асабістыя гаспадаркі, што асабліва важна сёння. Мотаблок мінскіх трактарабудаўнікоў гэта ўжо ці не ўчарашні дзень, сёння канструктары працуюць над «міні-трактарам» магутнасцю 18—20 конскіх сіл, аналагаў якому ў Савецкім Саюзе няма.

На сустрэчы ў эксперыментальным цэху сакратар праўлення СП БССР В. Зуёнак расказаў аб тым, чым жыве сёння пісьменніцкая арганізацыя. Яму было зададзена нямала пытанняў, таксама як Н. Пашкевічу і А. Вольскаму. Гаспадары цікавіліся вырашэннем моўнай сітуацыі ў рэспубліцы, праблемай надання беларускай мове статуса дзяржаўнай. Былі, праўда, і такія пытанні: «А, можа, вам проста выгадна пісаць па-беларуску?». І ўсё ж адчувалася, што праблемы нацыянальнага адраджэння людзям неабыякавыя, што рабочыя глыбока цікавяцца працэсамі, якія адбываюцца ў рэспубліцы.



Сакратар парткома завода М. СТУКАЧ (злева) гутарыць з П ПРУДНІКАВЫМ і А. МАСАРЭНКАМ.

Заключная гутарка з завадчанамі таксама была дзелавой. Гаварылася, у прыватнасці, пра большую ўвагу да тэхнікі бяспекі (літаральна перад тым, як пісьменнікі прыйшлі на завод, там загінуў вучань выпрабавальніка), пра тое, што трактарабудаўнікам неабходна зрабіць яшчэ вельмі шмат для вырашэння сацыяльных пытанняў. У пісьменнікаў склалася ўражанне, што духоўным, маральным, эстэтычным запатрабаванням рабочых надаецца мала ўвагі. А, між тым, як заначыў С. Законнікаў, на заводзе нямала тых, хто неабыякавы да лёсу свайго народа, нацыі. Радуе, гаварыў ён, што 16 чалавек выпісалі часопіс «Полымя», што людзі дбаюць, каб жыло роднае слова.

Думкамі пра жыццё і літаратуру, пра іх узаемасувязь дзяліліся з завадчанамі В. Мысłівец, А. Вольскі, В. Аколава, Н. Загорская, П. Пруднікаў і іншыя. У часе заключнай сустрэчы рабочыя таксама актыўна выступалі, з вялікай заклапочанасцю гаварылі не толькі пра свае вытворчыя праблемы, але і аб развіцці роднай мовы, дзяліліся ўражаннямі аб прачытаных кнігах.

А ў дадатак да ўсяго госці чыталі вершы, кампазітар У. Казбанаў выканаў свае новыя песні на словы В. Аколавай, А. Грачанікава, іншых паэтаў.

Вядучымі сустрэчы літаратараў і завадчан былі сакратар парткома Мінскага трактарнага завода М. Стукач і сакратар парткома Саюза пісьменнікаў БССР В. Супрунчук.

НАШ КАР.



Сустрэча ў кабінеце галоўнага канструктара П. АМЕЛЬЧАНКІ (ён — у цэнтры).
Фота Ул. КРУКА.

**У канцы кастрычніка — пачатку лістапада 1939 года беларускі народ перажываў вялікую падзею ў сваёй гісторыі — пасля двух дзесяцігоддзяў, на працягу якіх Беларусь была падзелена мяжой, ён аб'яднаўся ў адзінай савецкай рэспубліцы. Цяжкім, няроўным, супярэчлівым быў шлях да ўз'яднання. Няпроста даваліся і першыя крокі Савецкай улады на вызваленай тэрыторыі. Але супярэчнасці і памылкі не маглі і не могуць засланіць значнасць і веліч гэтай гістарычнай падзеі. І яе пяцідзесяцігоддзе было адзначана ў рэспубліцы з вялікай урачыстасцю.**

# «Раскутая песня не будзе больш плакаць...»

**50 год назад Заходняя Беларусь уз'ядналася з БССР**

11 лістапада ўрачыстасці адбыліся ў сталіцы рэспублікі. У па-святочнаму ўбраным будынку тэатра оперы і балета сабраліся ветэраны партыі, вайны і працы, передавікі прадпрыемстваў Мінска, наватары вытворчасці, дзеячы навукі і культуры, працаўнікі сельскай гаспадаркі. Яны прыйшлі на ўрачыстае пасяджэнне прадстаўнікоў грамадскасці рэспублікі, прысвечанае 50-годдзю ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР у складзе Савецкага Саюза. Перад пачаткам пасяджэння яго ўдзельнікі ўсклалі кветкі да помніка У. І. Леніну.

Урачыстае пасяджэнне адкрыў першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі **Я. Сакалоў.** З дакладам аб 50-годдзі ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР выступіў Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР **М. Дземянцей.**

На ўрачыстым пасяджэнні выступілі ветэран партыі, вайны і працы, актыўны ўдзельнік падзей 1939 года, былы сакратар Аўгустоўскага райкома партыі Беластоцкай вобласці **М. Аўхімовіч,** электраманцёр Гродзенскага завода такарных патронаў **М. Ніканові,** старшыня калгаса «40 гадоў Кастрычніка» Столінскага раёна, Герой Сацыялістычнай Працы **І. Янкоўскі,** падпалкоўнік, камандзір танкавага батальёна БВА **В. Харсека,** студэнтка Мінскага педінстытута імя А. М. Горкага **М. Іеўлева.**

Усхваляваную прамову сказаў на пасяджэнні народны паэт БССР, Герой Сацыялістычнай Працы, старшыня праўлення СП БССР, былы член КПЗБ **Максім Танк.** Ён, у прыватнасці, гаварыў:

**— Як вядома, не зважаючы на прапановы Савецкага ўрада мірным шляхам вырашыць спрэчныя пагранічныя пытанні, заходнія землі Беларусі і Украіны пры дапамозе Антанты былі акупіраваны польскімі капіталістамі, абшарнікамі і амаль 20 гадоў знаходзіліся пад іх каланіяльным прыгнётам. Заданнем створанага імі паліцэйскага і адміністрацыйнага апарату была ўстаноўка: Польшча павінна дайсці да сваіх палітычных граніц, дзе пакуль што жылі шчэ не асіміляванымі мільёны нейкіх палешукоў і тутэйшых.**

**Сёння можа некаму здасца дзіўным, як у такіх умовах беларускі народ няскораным прайшоў праз усе нялёгкія выпрабаванні, якія выпалі на яго долю.**

**Бясспрэчна, што ў гэтым адыграў вялікую ролю сам факт існавання Савецкай Беларусі, якая, не зважаючы на ўсе пасляваенныя цяжкасці, пры дапамозе ўсіх братніх народаў Савецкага Саюза, усё больш і больш набірала сіл на шляху сацыялістычнага будаўніцтва, росквіту сваёй эканомікі, навукі, нацыянальнай культуры.**

**Я помню, з якім хваляваннем на пачатку 30-х гадоў мы, навучэнцы Радашкоўскай беларускай гімназіі, якую хутка школьныя ўлады закрылі, пад час сваіх вандровак па маляўнічых прыгранічных купалаўскіх мясцінах, глядзелі на Савецкі Усход — на краіну нашых мар і надзей, адкуль народ чакаў прыходу свабоды.**

**Чакаў і ўсе гады змагаўся пад кіраўніцтвам Кампартыі Беларусі за сваё ўз'яднанне са сваімі братамі. Шмат слаўных старонак упісала КПЗБ у гісторыю гэтага змагання.**

Максім Танк на заканчэнне прачытаў свой верш «Здарова, таварышы!», напісаны ў памятным 1939 годзе, верш, які канчаецца радкамі:

Раскутая песня не будзе больш плакаць,<br>
Вясна — на чырвоным куце за сталом.<br>
Ад сэрца народнага шчырае дзякуй<br>
Братам і сцягам палымнеючым шлём.

Выступіла на пасяджэнні і народная артыстка рэспублікі **Марыя Захарэвіч.**

**— Маё пакаленне, — гаварыла яна, — прыйшло ў жыццё якраз у тыя дні жаданага вызвалення. І потым, з расказаў родных, аднавяскоўцаў мы не раз чулі, як у полі з ранку да вечара жала жняя збожжа не сабе, а пану, як плакала і прасіла ў зязюлі, каб тая палічыла, калі скончыцца праклятьі лёс наймічкі, калі скончацца пакуты, слёзы на вузкіх палосках ніў і бедных хатак...**

**Чаканая вясна, жаданы час прыйшлі! Знесена граніца няволі, парваны ганебныя драты на мяжы. Дваццацігадовая барацьба супраць палітычнага, сацыяльнага, нацыянальнага прыгнёту, якую самаахвярна вёў працоўны люд пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, завяршылася ўсталяваннем Савецкай улады, а чырвоны сцяг, з якім прыйшло вызваленне, быў світальным вешчуном новага жыцця...**

**У канве сённяшняга свята запаветныя словы: «адзінства», «еднасць», «уз'яднанне». І сёння, як ніколі, нам патрэбна яднанне. Сёння няма межаў, вузкіх палосак, але пазначыліся межы душ чалавечых. Адасобленасць, чэрствасць, зайздрасць, на жаль, існуюць, даюць аб сабе знаць.**

**Мы, прадстаўнікі нівы мастацтва, павінны і будзем усё рабіць, каб знішчыць тое, што перашкаджае чалавеку любіць чалавека, узвышаць яго духоўна, памнажаць лепшыя традыцыі нашага геранічнага, працавітага і таленавітага народа.**

# НЕ ПРЫВІДАЎ БАЮСЯ...

**Водгук на артыкул Э. Скобелева «Рэвалюцыя ці контррэвалюцыя!», надрукаваны ў газеце «Литературная Россия» за 11 лістапада г. г.**

Дарагі Эдуард Марцінавіч!

Як ты здагадваешся, артыкул пад такой назвай («Рэвалюцыя ці контррэвалюцыя?») заўважыла і прачытала — не магла не заўважыць і не прачытаць! — не толькі ўся Расія, дзе перш за ўсё распаўсюджваецца літсястра «ЛіМа», але і ўся краіна, у тым ліку і Беларусь. Прачытаў, натуральна, і я. Не мог, зноў-такі, не прачытаць. Нейкім чынам прапусціць. Як прапусціш, калі прыйшоў у панядзелак на працу, а нумар «Литературной России» ўжо чытаюць і абмяркоўваюць узбуджана на вул. Захарава, 19 адразу тры рэдакцыі — «ЛіМа», «Полымя» і «Беларусі» (у нас агульная бібліятэка).

Прачытаў, Эдуард Марцінавіч, і адклаў газету, як бы тут сказаць, у вялікім неўразуменні.

Чаму?

Зараз скажу. І дазволь пачаць з пытанняў, з гэтага самага «чаму?»

**Газета выразна падкрэсліла — у анонсе на першай паласе і ў сваёй урэзцы да артыкула, — што выступае «партработнік з Беларусі», «адказны работнік ЦК Кампартыі Беларусі». Гэта сапраўды так. Але чаму, узнікае ў мяне пытанне, работнік апарату ЦК КПБ выступае на такую актуальную, жыццёва важную тэму, як лёс нашай «рэвалюцыі ў рэвалюцыі», не ў выданнях ЦК КПБ, не ў «Звяздзе», «Советской Белоруссии» ці, скажам, у «Политическом собеседнике», а ў газеце Саюза пісьменнікаў РСФСР і маскоўскай пісьменніцкай арганізацыі? Чаму? «Литературная Россия» ўдакладняе ў сваёй урэзцы, што Э. Скобелеў не толькі партработнік, але і пісьменнік. Гэта таксама праўда. Як і тое, што Э. Скобелеў з'яўляецца членам нашай рэспубліканскай пісьменніцкай арганізацыі, прымае ў ёй актыўны ўдзел і выдае свае кнігі ў беларускіх выдавецтвах. Але вось сваю трывогу за лёс перабудовы ён нясе не ў наш «ЛіМ», дзе выступаў не раз, і не ў часопіс «Нёман», сталым аўтарам якога з'яўляецца, а ў расійскую газету. Чаму? Таму, што ў «Литературной России» намнога большы, чым у беларускіх выданняў, тыраж, намнога большае кола чытачоў? Не думаю, што справа ў гэтым. Бо калі б толькі ў гэтым, то лагічней было б, каб Э. Скобелеў як партработнік выступіў у «Правде», ну а як пісьменнік — у агульнасаюзнай «Литературной газете» (у яе вунь які тыраж!). Дык чаму ўсё ж «Литературная Россия»?**

**Сказаць, Эдуард Марцінавіч? Падобна, што тут твой выбар не выпадковы, што табе імпануе пазіцыя газеты, якую яна заняла апошнім часам па некаторых пытаннях — пазіцыя, мякка кажучы, далёка не перабудовачная і не сказаць каб сапраўды рэвалюцыйная. (Рамкі рэплікі не дазваляюць аргументаваць гэту ацэнку канкрэтнымі прыкладамі. Але › мог бы іх прывесці).**

А цяпер вернемся непасрэдна да публікацыі з яе «рэвалюцыйна - контррэвалюцыйным» загалоўкам. Тут мне, Эдуард Марцінавіч, зноў прыходзіцца звяртацца ў запытальнай форме. Стаўлю пытанні ў той паслядоўнасці, у якой яны прыходзілі па меры чытання артыкула.

«Противники перестройки торопятся, как воры, проникшие в чужое жилище». Хто канкрэтна яны, гэтыя «праціўнікі», гэтыя «тати», гэтыя злодзеі,

# ЧАРНОБЫЛЬ: учора, сёння, заўтра

Што адбывалася ў першыя гадзіны і дні пасля аварыі на ЧАЭС? Ці ўсё было зроблена для бяспекі людзей, для захавання іх здароўя? Ці не былі дапушчаны цяжкія памылкі і пралікі ў дзеяннях кіраўніцтва, сіл грамадзянскай абароны, вучоных, медыкаў? Гэтыя няпростыя пытанні закрануў у самым пачатку свайго выступлення **У. Еўтух,** які з першых дзён катастрофы знаходзіўся ў пацярпеўшых раёнах.

Так, сітуацыя ў той час складвалася нашмат больш драматычная і складаная, чым пра гэта паведамлялася ў друку, па радыё і тэлебачанні, шчыра прызнаў дакладчык. І ўсё ж, на яго думку, кіраўніцтвам рэспублікі сітуацыя была ўзята пад кантроль. Да сённяшняга дня на Беларусі не зарэгістравана ніводнага выпадку прамянёвай хваробы. Разам з тым, медыкі з трывогай адзначаюць рост захворванняў на анемію, вегета-сасудзістую дыстанію, дзіцячых захворванняў і г. д. А самае галоўнае — пакуль немагчыма прадказаць далёкія вынікі радыеактыўнага апраменьвання.

Якія ж меры неабходна прымаць у бліжэйшы час і ў перспектыве? З канца мінулага года, сказаў дакладчык, пачалася распрацоўка доўгатэрміновай праграмы барацьбы з нацыянальным бедствам. У аснову праграмы ляглі рэкамендацыі беларускіх вучоных.

Праграма прадугледжвае адсяленне жыхароў 526 населеных пунктаў, у якіх зараз пражываюць каля 118 тысяч чалавек. Адсяленне будзе паэтапным: першымі змогуць выехаць жыхары тых раёнаў, дзе ўзровень радыеактыўнай забруджанасці не дазваляе займацца сельскай гаспадаркай.

Пры ўсёй сваёй важнасці і складанасці адсяленне — толькі адна з задач, пастаўленых праграмай. Не менш важнай задачай, сказаў першы намеснік Старшыні СМ БССР, з'яўляецца зніжэнне ўзроўню радыяцыі ў пацярпеўшых раёнах. Тут патрэбны цэлы комплекс мер. Вельмі важна таксама павысіць там узровень жыцця насельніцтва. Праграмай намечана будаўніцтва новых пасёлкаў, паляпшэнне медыцынскага абслугоўвання, гандлю, арганізацыя і пашырэнне сеткі дазіметрычнага кантролю, навучанне радыяцыйнай ахове і многае іншае.

Выдаткі на ажыццяўленне доўгатэрміновай праграмы ліквідацыі вынікаў Чарнобыльскай аварыі складуць прыкладна 17 мільярдаў рублёў. (Для параўнання: будаўніцтва БАМа абышлося дзяржаве ў 10 мільярдаў). Зразумела, што такія выдаткі рэспубліцы не пад сілу. І наогул, чаму беларускі народ павінен расплачвацца за дзеянні саюзных ведамстваў, якія нясуць усю адказнасць за катастрофу на ЧАЭС?

Праграма ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі мае быць абмеркавана і прынята Вярхоўным Саветам СССР, каб набыць годнасць саюзнага закона.

Вядома, нашу праграму можна крытыкаваць, сказаў у сваім выступленні старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета БССР па праблемах ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС **І. Смоляр.** Але яе прыняцце — вельмі важны крок у вырашэнні праблем, звязаных з Чарнобылем. Рэалізацыя праграмы залежыць не толькі ад правільнасці дзеянняў урада, але і ад таго, наколькі зразумее і падтрымае праграму народ. І тут, на думку выступаючага, многае залежыць і ад важкага пісьменніцкага слова, ад сродкаў масавай інфармацыі.

Колькі б ні пісалася, ні гаварылася пра чарнобыльскую трагедыю, цалкам усвядоміць, адчуць яе, відаць, могуць толькі жыхары пацярпеўшых раёнаў. Таму з такой непадробнай увагай слухалі ўдзельнікі пісьменніцкага сходу гасцей, запрошаных з Хойніцкага і Краснапольскага раёнаў. Дырэктар саўгаса «Судкова» Хойніцкага раёна **М. Сачанка** расказаў, што на палове зямель саўгаса шчыльнасць радыеактыўнага забруджання складае ад 15-ці да 40 кюры на квадратны кіламетр. Агульны радыеактыўны фон у гаспадарцы — да 150 мікрарэнтгенаў у гадзіну (а ў асобных мясцінах — 500!). Гэта ў 10 разоў перавышае натуральны радыеактыўны фон. У першыя дні пасля аварыі максімальная шчыльнасць забруджання на саўгасных землях была 2300 кюры на квадратны кіламетр. Але людзі тут працуюць, атрымліваюць сельскагаспадарчую прадукцыю. З 9-ці пробаў зерня ўраджаю 1988 года, якія былі ўзяты на праверку, у 8-мі ўзровень утрымання стронцыя намнога перавышаў норму. Праверка забруджанасці прадукцыі, якую вырошчваюць у саўгасе, па словах яго дырэктара, праводзіцца нерэгулярна і няякасна. Дарэчы, спектральны аналіз, які ўдалося зрабіць, паказвае прысутнасць у ворыве радыенуклідаў цэзія, рутэнія, празеадыму і іншых элементаў з «экзатычнымі» назвамі.

Самае балючае пытанне, сказаў М. Сачанка, — здароўе нашых дзяцей. Медыцынскі нагляд за імі ў гаспадарцы практычна не вядзецца. Летні адпачынак у піянерскіх лагерах нічога, на яго думку, для паляпшэння здароўя дзяцей не дае.

Пра гэта ж гаварыла і парторг саўгаса «Краснапольскі» **В. Петрукові.** На тэрыторыі раёна, паводле яе слоў, жыве каля сямі тысяч дзяцей. У мэтах бяспекі вучні вымушаны не выходзіць са школы па 12 і болей гадзін. Калі ж яны выязджаюць на адпачынак у летнія лагеры, дык да іх часам ставяцца там, як да нейкіх пракажоных.

Гаспадарка, у якой працуе В. Петруковіч, будзе адсяляцца адной з першых. Шчыльнасць забруджання тут складае 70 кюры на квадратны кіламетр. Тым не менш, да самага апошняга часу саўгас вырошчваў кармавыя буракі і бульбу.

За тры з лішкам гады пасля аварыі многія беларускія пісьменнікі пабывалі, і неаднойчы, у пацярпеўшых раёнах добра ведаюць, у якіх умовах жывуць там людзі, што іх хвалюе і трывожыць. Зусім натуральна, што многія ўдзельнікі пісьменіцкага сходу паспрабавалі данесці гэтае пачуццё болю і трывогі да членаў урада, запрошаных на сустрэчу ў Дом літаратара.

Нельга даверваць адказным асобам, якія з самага пачатку хлусілі, спрабавалі ўвесці людзей у зман, супакойвалі замест таго, каб біць трывогу, сказаў **Б. Сачанка.** Ён нагадаў прысутным пра сход, які праходзіў у гэтай зале раней і на якім сёй-той з членаў урада спрабаваў намаляваць скажоную карціну жыцця ў пацярпеўшых раёнах. Людзям патрэбна поўная, праўдзівая інфармацыя. Ад гэтага ў многім залежыць і сённяшні псіхалагічны стан людзей, іх вера ў будучыню.

Аб маральнай і юрыдычнай адказнасці кіраўнікоў, вінаватых ва ўтойванні ад грамадскасці праўдзівай інфармацыі аб сапраўдных памерах чарнобыльскай трагедыі, гаварылі **В. Жуковіч і В. Якавенка.**

Страшным дэфіцытам назваў дэфіцыт праўды **С. Законнікаў.** Большую частку свайго выступлення ён прысвяціў дзецям, якіх закранула чарнобыльская бяда. Ім перш за ўсё патрэбна наша рэальная дапамога, сказаў ён, іх трэба перасяляць у бяспечныя раёны, у першую чаргу забяспечваць паўнацэнным харчаваннем.

З гэтай думкай пагадзіўся

## З пошты «ЛіМа»

## •«Ставіцца як мага цярплівей...»

## •Не ствары сабе куміра

## •Пабеглі?

□

Пішa вам, дарагая рэдакцыя, студэнт-завочнік гістфака БДУ, пачынаючы навуковы супрацоўнік. Пішу ў газету ўпершыню. Прымусілі ўзяцца за пяро падзеі, якія адбываліся ў Мінску ў час работы сесіі Вярхоўнага Савета БССР, ускалыхнулі грамадскасць, у тым ліку і мяне.

З аднаго боку, усе мы былі рады, што разглядаюцца такія важныя, жыццевызначальныя пытанні, як ліквідацыя вынікаў чарнобыльскай аварыі і прыняцце Законаў «Аб змяненнях і дапаўненнях Канстытуцыі Беларускай ССР» і «Аб выбарах народных дэпутатаў Беларускай ССР». У той жа час мне асабіста была незразумелая пазіцыя ўлад, якія катэгарычна забаранялі сустрэчу выбаршчыкаў са сваімі дэпутатамі ля Дома ўрада (перакрываўся выхад з метро на плошчу Леніна, была сцягнута вялікая колькасць міліцыі і «аманаўцаў» і г. д.). Людзей літаральна гналі ад будынка, дзе працавала сесія. «Чаму?» — не давала мне тады і не дае цяпер спакою пытанне. Я ж увачавідкі пераконваўся, што людзі былі настроены мірна, яны хацелі толькі прадэманстраваць сваё жаданне, каб уноў прымаемыя законы аб выбарах былі сапраўды дэмакратычнымі, сапраўды адпавядалі духу перабудовы, духу народнага валевыяўлення. Ды гэтаму жаданню былі супрацьпастаўлены дубінкі і зброя, паміж выбаршчыкамі і народнымі абраннікамі стаялі шпалерамі людзі ў форме.

Сіла права і права сілы... У дні работы беларускага парламента мы маглі назіраць: стаўка робіцца на «права сілы». Хаця неабходнасці ў гэтым, як я ўжо казаў, не было. Калі параўноўваць з тым, што робіцца ў другіх рэгіёнах краіны, то можна смела сказаць (і звярнуць на гэта ўвагу нашых улад): мінскія, беларускія мітынгі і дэманстрацыі як нідзе мірныя, цывілізаваныя. Трэба гэта ўсім нам цаніць.

Цяжка жыць, не ведаючы, што будзе заўтра, як будзе складвацца лёс перабудовы ў рэспубліцы: у рэчышчы далейшага непрызнання нефармальных грамадскіх рухаў ці ўсё ж на шляху дыялога, супрацоўніцтва з імі? Пытанні, пытанні...

**П. НІЧЫПАР.**

г. Мінск.

□

**Знайшла самвыдаўскі дакумент, прачытала яго і здзівілася: якую крамолу бачаць у ім партыйныя і савецкія работнікі? Нас вельмі доўга выхоўвалі так, каб усе мы прытрымліваліся аднолькавых поглядаў. Такую практыку крытыкаваў У. І. Ленін, засцерагаў ад яе. Час колішняму «единомыслию», распаўсюджанаму ў нашым грамадстве, саступіць месца больш дэмакратычным поглядам і з'явам.**

**Падумалася: чаму з такімі перашкодамі і цяжкасцямі мы ідзём да дыялога? Пэўна, многія апаратчыкі і так званыя ідэалагічныя байцы не чыталі выказванне Леніна аб неабходнасці разумнага падыходу адзін да аднаго. У. І. Ленін заклікае нас тактоўна і ўважліва працаваць з тымі, хто яшчэ вучыцца, «усяляк дапамагаць, ставіцца як мага цярплівей да іх памылак, выпраўляць іх паступова і шляхам пераканання, а не барацьбы» (ПЗТ, т. 30, стар. 226). Залатыя словы вялікага правадыра! Дык ці трэба так упарта старацца, каб перайначыць адзін аднаго на «свой капыл»?**

**Дарэчы, маладыя хлопцы з «Адраджэння» звяртаюцца да народа на роднай мове, а іхнія аднагодкі камсамольскія актывісты часта і двух слоў не могуць сказаць на ёй.**

**Н. ШУНЬКО,**
**рабочая завода парашковай металургіі.**

г. Маладзечна.

□

У газетных матэрыялах, прысвечаных рабоце Вярхоўнага Савета СССР, нярэдка можна сустрэць выраз — дэлегацыя народных дэпутатаў, скажам, Узбекістана. Лічу, што ўжыванне слова «дэлегацыя» пры вызначэнні асобных груп дэпутатаў неправамернае, бо ў яго звычайным разуменні прадугледжвае наяўнасць групы, звязанай унутранай дысцыплінай, падначаленай свайму кіраўніку. Народныя дэпутаты СССР выбіраюцца непасрэдна грамадзянамі і адказныя толькі перад імі. Праўда, у ходзе работы З'езда могуць узнікаць пастаянныя або часовыя групы дэпутатаў (па інтарэсах, па аднолькавым падыходзе да якога-небудзь пытання, па тэрытарыяльнай прыкмеце і г. д.), але гэта ўжо іншая справа.

**А. ЛЕЙЗЕРАЎ,**
**доктар юрыдычных навук.**

□

**Шчыра кажучы, сам факт прыезду Данчыка на Беларусь сказаў усё сам за сябе. І трэба толькі радавацца, што пачалі аднаўляцца сувязі з суайчыннікамі, якіх лёс закінуў далёка ад бацькаўшчыны.**

**Але мяне вельмі засмуціла хваля празмернага ажыятажу, якая суправаджала Данчыка на кожным ягоным кроку па зямлі продкаў. Прадчуваю, што некаму гэтыя словы будуць не па душы, але мушу выказацца...**

**Я заўсёды насцярожліва ставіўся да людзей, якія, так бы мовіць, блытаюць фанатызм з рэлігіяй. Пагадзіцеся, гэта ж зусім розныя рэчы: вера ў бацькаўшчыну, незгасальная любоў да яе — і ажыятаж вакол такіх людзей з чыстай верай. Мяне, скажам, зусім не здзіўляе тое, што ў сям'і Андрусішыных збераглі памяць аб Радзіме. Не здзіўляе, бо калі чалавек любіць Радзіму, шануе яе мову і культуру, — гэта натуральна. Гэта норма. А вось калі яго за гэта хваляць і ўзносяць — гэта, мякка кажучы, дзіўна.**

**Безумоўна, Данчык за гады нядаўняга мінулага зрабіўся ў вачах многіх тутэйшых беларусаў сімвалам героя-пакутніка. І мог быць кананізаваны яшчэ пры жыцці, калі б Леанід Ільіч пражыў яшчэ колькі гадоў... Але, дзякуй богу, апошнім часам змянілася многае. І мы змаглі пабачыць легендарнага Данчыка твар у твар. Ён аказаўся самым звычайным чалавекам, які мае добрую, любімую работу і прыемнае для яго і іншых хобі — спевы. Спявак-аматар, ён за кошт спеваў не жыве. Ён ехаў наведаць Радзіму з думкай, як ён сам сказаў, «каб толькі не зрабілі які канцэрт...» А яго тут з чыейсьці лёгкай рукі зрабілі ці не замежным гастралёрам, «зоркай» заходняй эстрады. Данчык даў каля 20 канцэртаў, не лічачы таго, што мусіў спяваць на кожнай з ім сустрэчы. Песні для Данчыка — гэта першае каханне. А хіба можна на гэта прадаваць білеты (няхай і з дабрачыннымі мэтамі), ладзіць шоу і ўздымаць такі вэрхал, які мне выразна нагадаў тую атмасферу, што суправаджала ў Мінску прыезды «Ласкового мая» ці Жэні Белавусава.**

**Дальбог, ніякавата было за тых людзей, што, паддаўшыся настрою «фанатаў», страчвалі і сваю годнасць, і здаровы сэнс, выстаўляючы на паказ сваё бескультур'е, нявыхаванасць, дылетантызм, невуцтва. Данчык сам падкрэсліў сваё аматарскае дачыненне да спеваў — дык што ж у тым крыўднага? Паболей бы і нам такіх «канторскіх служачых», якія валодаюць гітарай і маюць чысты, адпрацаваны, хоць і невялікі голас. Данчык не прэтэндуе на прафесійнасць: калі я правільна зразумеў яго маці, спадарыню Юлю, у Амерыцы ён выступае нячаста, ці не раз на месяц, ды і то ў зборных канцэртах. За час знаходжання на Беларусі яго вымусілі выканаць ледзь не пяцігадовую норму выступленняў?**

**Што датычыць выдадзеных у Амерыцы пласцінак... Ну, дык Амерыцы пашанцавала ў тым сэнсе, што там няма фірмы «Мелодия». Там шмат іншых фірм, таму кожны чалавек, маючы грошы, можа выдаць уласную пласцінку, запрасіць для запісу альбо ўласных сяброў, альбо сапраўдных зорак сцэны. Гэта залежыць ад сумы, якую мае той чалавек. Вядома, што ніводная з пласцінак Данчыка не выдавалася з разлікам на самаакупнасць, камерцыйны поспех; іхні тыраж не перавышаў тысячу экземпляраў. Выданне пласцінкі «Я ад вас далёка» каштавала 12 тысяч долараў. Той, хто крышку арыентуецца ў тамтэйшых цэнах, адразу ж скажа: з такімі грашыма выдаць якасны ў творчых і тэхнічных адносінах альбом у ЗША надзвычай цяжка. Дзеля чаго ж у нас выступленні Данчыка суправаджаліся рэкламай: «Тры выдадзеныя ў ЗША альбомы!» Дзеля чаго ж пустаслоўныя заклікі да Міністэрства культуры: «Перавыдаць пласцінкі Данчыка з дапамогай фірмы «Мелодия»!»? Калі ўжо і распачынаць гаворку, дык наконт перазапісу тых пласцінак, з запрашэннем прафесійных гукарэжысёраў, аранжыроўшчыка, музыкантаў.**

**Успамінаючы тых, хто «штурмам браў» канцэрты Данчыка, я не магу пазбавіцца ад пытанняў. А дзе ж вы, калі ў філармоніі праходзяць канцэрты беларускай музыкі? Вы шчыра і ўсёй душою за адраджэнне нацыянальнай культуры — дык, можа, вы перапоўнілі б той жа Палац культуры Белсаўпрофа ці Палац спорту, калі б на сцэны выйшлі фальклорныя гурты з вёсак Стаўбун ці Барталамееўка? Ці за дзень-другі расхапалі б білеты на канцэрты з цыкла «Анталогія беларускай вакальнай музыкі», распачатага Віктарам Скорабагатавым, або — шматтысячныя тыражы пласцінак з запісамі Валянціны Пархоменкі ці Леаніда Барткевіча? Чаму ж вы не патрабуеце выдання пласцінкі «Музычны фальклор Беларускага Палесся», адзначанай нядаўна «Гран-пры» Французскай акадэміі грамзапісу?.**

**Дальбог, я з задавальненнем паслухаў Данчыка на канцэрце. Пераканаўся ў ягонай шчырасці, непадробнай любові да Беларусі. Але, думаю, ён вельмі далёкі ад празмернага самаўсхвалення. Чаму б і нашым «фанатам» спакойна не ўсвядоміць: нацыянальнае музычнае мастацтва — гэта не адзін Данчык. З большай увагай паглядзім на тых, хто побач з намі, вакол нас! Будзьма і ўсё іншае падтрымліваць з гэткім жа захапленнем, як нашага амерыканскага суайчынніка!**

**Дзмітрый ПАДБЯРЭЗСКІ,**
**журналіст.**

г. Мінск.

□

У Фрунзенскім раёне г. Мінска нядаўна была прынята важная пастанова аб стане і мерах па паляпшэнні медыцынскага абслугоўвання насельніцтва. У ёй прыводзілася такая лічба — 1,26 мільёна чалавека-дзён было страчана тут з-за хвароб насельніцтва ў мінулым, 1988 годзе. У выніку гэтага народная гаспадарка не дабрала 55 мільёнаў рублёў.

Чаму ж у нас столькі людзей хварэе? Думаю, што не ў апошнюю чаргу гэта тлумачыцца занядбаннем у краіне фізічнай культуры. Ці не ўсе намаганні нашых спартыўных чыноўнікаў скіраваны на тое, каб выхоўваць чэмпіёнаў, здароўе ж усяго народа цікавіць іх не надта. Між тым, у тых жа Злучаных Штатах Амерыкі на самым высокім узроўні знаходзіцца менавіта масавая фізічная культура, скажам, бег, якім займаюцца мільёны людзей. Аматарам штодзённага аздараўляльнага бегу з'яўляецца сам прэзідэнт Д. Буш.

Мне могуць сказаць, што і ў нашай краіне, у прыватнасці, у нашай рэспубліцы ёсць таксама нямала аматараў аздараўляльнага бегу — А. Гогалеў, А. Кізін, Ю. Андрэеў і іншыя. Але і дзесяткі такіх людзей не паляпшаюць агульнай карціны. Бег не стаў у нас масавай з'явай. Я звяртаюся да ўсіх — давайце бегаць!

**С. ФЕНЬКА,**
**пенсіянер, аматар аздараўляльнага бегу.**

□

**Мінуў год, як была прынята пастанова ЦК КПБ аб увекавечанні памяці першага старшыні беларускага ўрада Ц. Гартнага (З. Жылуновіча). Ёй было прадугледжана прысваенне імя Гартнага адной з вуліц горада Мінска і ўстанаўленне памятнай дошкі на доме, дзе ён жыў.**

**Дык вось, вуліца ягоным іменем ужо названа, а другі пункт пастановы так і не выкананы. Не вызначана нават, на якім доме будзе ўстаноўлена гэтая дошка, бо пісьменнік жыў на вуліцах К. Маркса і Маскоўскай. Магчыма, правільна было б змясціць гэтыя дошкі на абодвух дамах.**

**У свой час, калі ўрачыста адзначалася 100-годдзе з дня нараджэння пісьменніка, была ўнесена прапанова аб прысваенні імя Цішкі Гартнага школе на яго радзіме ў г. Капылі. Але і гэта прапанова засталася на паперы.**

**Нехта ж павінен кантраляваць выкананне рашэнняў, якія прымаюцца. Ці не так?**

**Н. НАВІЦКІ,**
**ветэран вайны.**

□

На старонках друку, па тэлебачанні і радыё апошнім часам вядзецца гаворка пра стан беларускай мовы і культуры, пра іх будучыню. Сёе-тое даходзіць і да тэхнічнай інтэлігенцыі (да якой належу і я), і не трэба думаць, што гэтыя праблемы пакідаюць нас абыякавымі. Па пашпарце я — беларус, мае бацькі па пашпарце — таксама беларусы. Аднак беларускай мовы я амаль не ведаю, дакладней, ведаю рыхтык як французскую, якой навучаўся з першага класа ў спецыялізаванай школе. Гісторыю БССР я не ведаю ўвогуле. Народных традыцый — адпаведна... І падобных да мяне ўзгадавалася ўжо некалькі пакаленняў. Дык хто ж мы? Беларусы ці не? Калі мы не хочам, каб беларуская мова была для нашых дзяцей роднаю, калі мінуўшчына і будучыня Беларусі нам абыякавыя, дык навошта ў такім разе заставацца бутафорскімі беларусамі, беларусамі паводле пашпарта? Навошта падтрымліваць бачнасць нацыянальнага жыцця, бачнасць беларускай дзяржаўнасці? Дзеля палітычнай гульні? Але ёсць рэчы, з якімі не гуляюць, і адна з іх — лёс цэлага народа, яго мовы, яго культуры.

**Ф. ЯКАЦУК,**
**малодшы навуковы супрацоўнік БПІ.**

# АДКРЫТЫ ЛІСТ

РЭДАКТАРУ ГАЗЕТЫ «НА СТРАЖЕ ОКТЯБРЯ» С. Л. ШАХНОВІЧУ

**Сяргей!**

**Гэты ліст мяне прымусіў напісаць не столькі артыкул «Рассудите нас, люди», які перадрукавала з «Политического собеседника» ўзначальваемая табой газета, колькі наша даўняе знаёмства і, калі хочаш, шкадоба да цябе. Артыкул толькі акрэсліў жаданне пагаварыць з табой. Памятаеш, як яшчэ ў канцы 70-х, у самы разгар брэжнеўшчыны, мне прышпілілі ярлык «нацыяналіст» і «прапанавалі» звольніцца з работы, ты дапамагаў мне знайсці кватэру, знайсці новую службу, і мы разам марылі пра лепшыя часы. Гэтыя часы, здаецца, наступаюць...**

**Хацеў пачаць ліст добрым даўнім беларускім зваротам: «Спадар Сяргей...» Але ты не спадар. Ты, як і многія з нас, пакуль што няйначай паслухмяны вінцік вялікага антыдэмакратычнага малоха, сістэмы, якую я разам з сумленнымі хлопцамі хацеў і хачу перайначыць, каб стала яна сапраўды народнай, сапраўды дэмакратычнай, сапраўды светлай для кожнага з нас. І для цябе, між іншым, таксама.**

**Памятаю, як вясной гэтага года, калі ў маім кабінеце шукалі «бомбу», а твая газета схлусіла сваім чытачам, расказваючы пра гэты факт, я пазваніў табе. Я расказаў усё, як міліцыя ўзламала дзверы, як зрабіла вобыск, як забрала «Навіны» і мае асабістыя рэчы... Я чакаў, што газета надрукуе праўдзівы матэрыял. Я верыў, бо ведаў цябе чэсным, сумленным хлопцам. Не дачакаўся...**

**Калі «Политический собеседник» надрукаваў згаданы артыкул, мне шмат хто прапанаваў падаць у суд. Але я, ведаеш, Сяргей, яшчэ паважаю сябе, каб апускацца да судовай цяганіны з паклёпнікамі. Тым больш, што абвяржэнне, якога б я дабіўся праз суд, па сутнасці, не варта выедзенага яйка. Перакананы, што большасць сумленных людзей і так не верыць лухце, якая там напісана пра мяне. Ды і ты, даючы «дабро» на перадрук, упэўнены, таксама не верыў. Тыя сцвярджэнні, што я нібыта за народнафронтаўскія грошы купіў машыну і збудаваў дачу — хлусня, разлічаная на дурняў. Бо толькі дурань можа паверыць, што за год (а менавіта столькі існуе БНФ), нават маючы дзесяткі тысяч грошай, пры нашай прадэфіцытненай талоннай сістэме можна набыць, скажам, халадзільнік. А тут — машына і дача. Не зайздрошчу я тым людзям, якія, трымаючыся за астываючыя чыноўніцкія крэслы, бяззуба хапаюцца за такую танную саломінку. Не ўратуе яна іх!**

**Сяргей, ты помніш, як мы ездзілі на маёй машыне яшчэ задоўга да стварэння аргкамітэта БНФ, як радаваліся за тваю новую кватэру. І сёння я не прамінуў бы мажлівасці запрасіць цябе на дачнае наваселле. Вось толькі шкада, што «Политический собеседник», сцвярджаючы, што ў мяне ёсць машына (а яна ў мяне з 1982 г.) і дача, «забыў» чамусьці назваць яе адрас. Можа, па той прычыне, што ў мяне... няма яе, дачы.**

**Гэты адкрыты ліст я дасылаю ў нашу пісьменніцкую газету «Літаратура і мастацтва», бо лепшыя часы, пра якія мы марылі, толькі наступаюць, і твая «На страже Октября» наўрад ці адгукнецца на мой голас...**

**Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ.**

# Карані жыццёвага дрэва

Перачытваю новую празаічную кніжку В. Гардзея і заўважаю, што, бадай, ва ўсіх творах закранающца маральна-сацыяльныя праблемы нашага часу. Менавіта закранающца, ставяцца, а не даследуюцца. Зразумела, усе гэтыя праблемы даўно не новыя. І адным ганьбаваннем ды непрыманнем непажаданых з'яў, без канструктыўнага падыходу да іх ніяк не абыдзешся... Але такога падыходу ў нашага аўтара няма — і ці толькі, запытаю, у яго? Гэта пакуль наша агульная бяда. І ты міжволі ўдзячны пісьменніку, што хаця б «закрануў», «паставіў» і нават дзе-нідзе зазірнуў у корань прыгаданых з'яў-праблем. Вядома ж, праз прызму свайго светабачання і ў меру таленту свайго.

**Вось апавяданне «Дварняк Бобік і ласіныя рогі» (не надта дакладная, дарэчы, назва). Аднаго разу Пілiпка Радзюк, бядак-паляўнічы, знайшоў у лесе «цудоўныя і прыгожыя ласіныя рогі — галінастыя, больш як паўметра ў вышыню, з сямю адросткамі на кожным ствале. Адразу відаць, што насіў іх... здаравенны, мацёры лось». З гэтай хвіліны вялікай, амаль дзіцячай радасцю зажыў чалавек: яны, маўляў, паслужаць добрым падарункам жонцы, звяглівай злосніцы. Ды хутка гэтая радасць звялася да гандлярскага клопату.**

Вядома, рогі тут — сімвалічны знак ухопістай абывацельшчыны, мяшчанскага азарту. Адкуль у людзей хвароба «прычандалізму» (слова М. Стральцова) — даўняя, застарэлая? Як лячыць яе? Вось дзе загадка! Адной бездухоўнасцю, мабыць, усяго не вытлумачыш. Як і духоўнасцю таксама.

Гэтыя паняцці, дарэчы, так зацягалі ў крытыцы і ў публіцыстыцы, што яны сталі агульнымі дзяржаўнымі штампамі. Ёсць жа і духоўныя абывацелі, прычым іх больш, чым нам уяўляецца.

З усіх персанажаў апавядання адзін Піліпка чалавек бескарыслівы. Хаця зноў жа: не заўсёды паводзіны і ўчынкі яго дастаткова высветлены, псіхалагічна абгрунтаваны.

Той жа жыццёвай праўды, псіхалагічнай абгрунтаванасці бракуе апавяданням «Славік на каламажцы» і «Лужок перад хатай». А вось «Валуны цераз вуліцу», хоць і не маюць якойнебудзь выразнай фабулы, але, думаю, твор гэта самы буйны, бездакорны ў празаічным зборніку В. Гардзея.

**Жывуць у вёсцы двое старых, сусед і суседка, Аліфер і Тафіля. Пры хаце ў кожнага свой адметны валун-седала. Кожнага дня, умасціўшыся на валуны, суседзі вядуць свае няхітрыя размовы-перамовы. Розныя, перш за ўсё пра надвор'е, цяперашнюю моладзь і сваю маладосць. І колькі ж у гэтых размовах цеплыні, сардэчнай ласкі, увагі і павагі адзін да аднаго! Але вось прыходзіць дзень, калі Тафіля назаўсёды з'язджае да малодшай дачкі.**

**«Развіталіся яны доўга і так сардэчна, як быццам разумелі, што больш ніколі не сустрэнуцца. Тафіля ў адной руцэ трымала авоську, а другой выцірала чырвоныя заплаканыя вочы. Аліфер стаяў побач, пасярод вуліцы, і голас яго таксама здрадліва дрыжэў:**

**— То едзеш, Тафілька?**

**— Еду, Сцяпанка, — вінавата ўсміхалася Тафіля.— Пастаяла, памаўчала і выціснула скрозь слёзы: — Як жа ты цяпер будзеш? Нікога ў цябе няма—адзін, як пуп».**

**Пасля Тафілінага ад'езду стары Аліфер «увачавідкі пастарэў, згорбіўся», а неўзабаве «прастудзіўся, захварэў і ціха развітаўся з гэтым светам».**

У чым жа загадка гэтага апавядання? Чаму звычайны жыццёвы факт стаў фактам мастацтва? Мяркую, у гранічна выразнай пазіцыі пісьменніка, у любасці і дабрыні, з якой апісвае сваіх герояў, іх узаемадачыненні. Як і ў дакладнай апавядальнай кампазіцыі.

Матыў чалавечай еднасці, любові і міласэрнасці, усёперажывання і ўзаемадапамогі гучыць, не сціхаючы, амаль ува ўсіх творах В. Гардзея. І гэта вельмі важна, бо такія пачуцці сталі ўжо, бадай, рудыментам.

Што ж датычыць мастацкага ўзроўню, этычнага і маральна-сацыяльнага зместу апавяданняў «Кармакухня», «На водшыбе», «Старыя жорны», «Каламутная вада», «Сельскі карэспандэнт Саўка Халецкі», «Вальс пад журлівымі таполямі» і іншых, то яны нашмат ніжэйшыя і бяднейшыя за ўжо разгледжаныя творы. Хацелася б толькі нагадаць тут адзін вядомы пастулат: у кожнага больш-менш здольнага пісьменніка — свой стыль, свая мастацкая манера самавыяўлення. Кідкая ці не вельмі. У творчасці аднаго празаіка пераважае эмацыянальна-пачуццёвая стыхія, у другога бярэ верх рацыяналістычны пачатак, роздум. Што ж датычыць В. Гардзея, то ў яго творах прадумана ўраўнаважваюцца эмацыянальныя і рацыяналістычныя пачаткі. Ды яшчэ — сур'ёзнае і смешнае, празаічнае і паэтычнае.

Дык вось, у згаданых апавяданнях В. Гардзея мастацкі зарад моцна аслаблены. Задумы, канфлікты гэтых твораў нязначныя, як бы прыватныя — акурат для замалёвак. І як вынік — нецікавыя і героі іх. У апавяданнях даследуюцца не чалавечыя лёсы і нават не характары, а ўсяго — адна-другая рыса іх натуры. Словам, пісьменнік паказвае дзейных асоб аднаначна, малюе толькі чорна-белымі фарбамі, без тонаў і паўтонаў. А суадносіны іх будуе па прынцыпе антытэзы, кантраснага паралелізму, па вонкавых прыкметах, якія характэрны найперш стэрэатыпу, а не жывому чалавеку.

Апавяданні ж «Сельскі карэспандэнт Саўка Халецкі» і «Вальс пад журлівымі таполямі» стаяць як бы ўбаку — не вельмі «ўжываюцца» ў ідэйна-мастацкую тканіну кніжкі. Першае — гэта хутчэй усяго літаратурны пасаж, сінтэз вожыкаўскай гумарэскі і «іранескі». Другі твор падкрэслена белетрыстычны, ён з тых (добра, калі памыляюся), што народжаны самой белетрыстыкай.

**Так, многае ў творчасці пра-**

В. Гардзей. Карані вечнага дрэва. Аповесць, апавяданні. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1988.

# Трапяткі пульс радка

У нашай рэспубліцы плённа працуе нешматлікі, але цікавы атрад рускіх паэтаў. Гавораць жа пра іх і пішуць надзвычай мала. Адзін з такіх, абыдзеных увагай крытыкі, — паэт Ізяслаў Катляроў, які жыве ў Светлагорску. Аўтар некалькіх кніжак для дзяцей і дарослых, ён піша шмат і даўно, друкуецца ў часопісах «Знамя», «Юность», «Нева», «Аврора», «Смена», «Нёман», хоць і не з'яўляецца членам Саюза пісьменнікаў. Сёлета ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшаў новы яго паэтычны зборнік — «Здесь, на трепетной земле». Што ўражвае, што выклікае найбольшую ўвагу ў ім?

Пачынаецца зборнік безназоўным вершам «Друг не поймет...» Гэта трывожлівы роздум пра сённяшні дзень чалавека, які жыве «вблизи Наровли, Брагина и Хойник». Верш не з ліку самых моцных, але ён — той камертон, які задае адпаведную элегічную танальнасць, настройвае на абвостранае ўспрыманне рэчаіснасці з яе драматызмам.

Матыў прызнання ў любові да сваіх вытокаў, чуйных рэчак і ручаін, безабаронных дрэў і зёлак — адзін з галоўных, вызначальных у кнізе. Голас паэта не ўздымаецца да той інтанацыйна - прамоўніцкай узвышанасці, якая мяжуе са шматслоўем ці самаатэстацыяй. Безназоўныя вершы (а іх большасць у аўтара), як і тыя рэчкі з ручаінамі, не прэтэндуючы на гучнасць і маштабнасць, маюць прываблівыя рысы арганічнасці і паўнакроўнасці пачуцця, даверлівай патаемнасці і выразнасці. Лірычны герой гаворыць пра невядомы шырокаму свету гарадок, уяўляючы, што «не вся вода, что в этой вот реке, не вся земля, что здесь, перед глазами», але разам з тым яскрава ўсведамляючы:

**Здесь ног твоих касается река<br>так ласково, что, если не лукавить, —<br>без этой речки и без городка<br>тебе своей Отчизны не представить.**

Чалавек, які жыве напружаным духоўным жыццём і адчувае сваю далучанасць да ўсёй «планеты людзей» (так назваў нашу Зямлю Экзюпеpы), які здольны глыбока перажываць за блізкага і далёкага сучасніка, за дзяцей і птушак, ранішнюю расінку на бэзавым пялёстку і вячэрні промень над сцежкай ля Бярэзіны, мае права сказаць: «А можно жить в каком-то городке... — и не считать себя провинциалом».

Сапраўдная паэзія, якой бы ні была яна па форме, па знешніх адзнаках, заўсёды — напружанне душы і роздуму, асэнсаванне сябе і людзей, вечнае пазнанне неспазнанага. Добрая недагаворанасць — (што ад адчування таемнасці самога існавання), светлы смутак аб недасяжнасці ідэалу і хуткаплыннасці часу выявіліся шмат у якіх радках аўтара.

**Есть какая-то высшая воля,<br>о которой и думать не смей,<br>в том, что небо, и роща, и поле —<br>воплощение грусти твоей.**

Асэнсоўваючы «вечныя» катэгорыі, паэт не цураецца той прозы жыцця, якая — вакол. Невыпадкова ў кнізе гучаць галасы вакзалаў і аўтастрад, чыгуначных станцый і шляхоў у стэпе, знаёмых і незнаёмых аўтару людзей, майстроў, якія жывуць сваёй працай і ёю сцвярджаюць сябе: «Мастера хвалит работа, мастер не хвалит ее». Тут — і вершы пра горкія пасляваенныя гады, пра бацьку, які, памечаны шрамамі, вярнуўся з фронту, пра маці, якая атрымлівала «пропахшее дымом и потом, окопной горелой землёй» пісьмо з крывавых палёў вайны.... Такая «заземленасць» не паслабляе, а, наадварот, узмацняе гучанне кнігі, надае ёй большую паўнату.

Сталае ўспрыманне з'яў і падзей, усведамленне іх складанасці набываюць тыя рэалістычныя рысы, якія не маюць нічога агульнага ні з расчараванай канстатацыяй, ні з паэтычнай эйфарычнасцю захапленняў, уласцівых юнацтву. Позірк на свет такі, які ён ёсць, не азначае безвыходнасці ці песімістычнага надрыву:

**Законченность осенних очертаний<br>все проще, все понятнее видна...<br>И мир, как на гравюре, стал реальней<br>в обычной раме твоего окна.<br>Как будто вдруг поутихали ветры<br>и облака приобрели покой...<br>Стволы — стволами и ветвями — ветви, —<br>все стало наконец самим собой.<br>И ничего придумывать не надо.<br>На кронах листья можно перечесть.<br>И никакого явного разлада<br>меж тем, что видишь, и меж тем, что есть.**

Між дарагіх адрасоў прызнання лірычнага героя — любімыя ім Расія і Беларусь. Нашай рэспубліцы - партызанцы, дзе «капли падают с мокрой стрехи», дзе «обветшалый сарай над рекой, не сгорая, горит от заката», дзе сэрца «над лугом гулко бъется», прысвечаны вершы «Родине», «Тишина», «Тополь вдруг преобразился...».

Чысцінёй, першароднасцю адчуванняў напоўнены змест і мелодыя вершаў «Иду — и первый снежный хруст...», «Проснулся. От снега светло...», «Снегопад в Ленинграде». Пры ўсёй сваёй неўскладнёнасці ім не ўласцівы спрошчанасць, банальнасць. І зусім не дысанансам выступаюць поруч з жыццесцвярджальнымі радкамі вершы з выразна акрэсленай бытавой атрыбутыкай, рэаліямі не зусім лірычнага парадку:

**А тот, кто вилами навоз<br>гребет из дымного сарая<br>и тащит клочьями на воз, -<br>о чем молчит, изнемогая?<br>Он телогрейку расстегнул,**

І. Катляроў. Тут, на трапяткой зямлі. На рускай мове. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1989.

# Пазбавіцца паспешлівасці

Сэнс назвы зборніка апавяданняў Міхася Барэйшы досыць празрысты. Слова «крыніца» аўтар ужывае не столькі ў прамым, колькі ў пераносным, абагульнена-адцягненым значэнні. З семнаццаці апавяданняў, змешчаных у кнізе, толькі ў адным ёсць эпізод, дзе герой чысціць запушчаную, забытую людзьмі крынічку («Камета Галея»). І гэта набывае сімвалічнае гучанне, азначае найперш неабходнасць вяртання да памяці, ачышчэння яе ад скажоных, дэфармаваных напластаванняў.

Шкада толькі, што не заўсёды вобразы ў апавяданнях М. Барэйшы дастаткова пераканаўчыя і псіхалагічна дакладныя. У творчым самаразвіцці празаік быццам спыніўся на месцы: апавяданні гэтага зборніка па сваёй мастацкай вартасці і тэхніцы пісьма амаль нічым не адрозніваюцца ад тых, з якімі М. Барэйша дэбютаваў. Прыкладная схема большасці, як правіла, наступная: галоўны герой трапляе ў нейкую крытычную сітуацыю і пачынае не ў меру рэфлексаваць. Сюжэт іх найчасцей трымаецца не на развіцці падзей ці характараў, а на дзіцяча-вучнёўскім: «і раптам», «аднойчы», «нечакана».

Шмат такіх «раптоўнасцяў» ды «нечаканасцяў» здараецца з Рыгорам Седлаўцом («Кембрыйскае мора»), Станіславам Пятровічам і безыменным героем з апавядання «Усмешка малога», Ларысай Пятроўнай Нядольскай («Насустрач новаму дню»), Сцяпанам Вавулам («Калі прыйдзе світанне»). Насычаны імі і «Памяць», «Надпіс на снезе», «Жыві светла», «Мроіва». Такім чынам, мы нярэдка маем справу не з мастацкім творам, а са звычайным пераказам, які нагадвае журналісцкую замалёўку ў раённай газеце, дзе механічна спалучаныя факты і падзеі прамой дарогай вядуць нас да зададзенай пісьменнікам ідэі.

Некаторыя апавяданні Міхася Барэйшы і, перадусім, «Кветкі на цыраце», «Памяць», «Мроіва», «Калі прыйдзе світанне», адкрыта грашаць маралізатарствам, не пазбаўлены схематызму, літаратуршчыны. Вось, скажам, апісвае аўтар драматычную сцэну расправы фашысцкіх карнікаў. Нічога новага мы тут не адшукаем. Нам ужо добра знаёмыя і той жа выслужнік— здраднік — паліцай, і ўсё той жа «гер афіцэр».

Вельмі цяжка прыняць на веру і наступны эпізод з апавядання «Памяць»:

«— Тата! Татачка! — выскачыла з жаночай палавіны дзяўчынка гадоў васьмі і кінулася цераз плошчу. Салдат, які ахоўваў жанчын, адпусціў аўчарку. Тая скокнула да дзіцяці, але не рванула зубамі, а спынілася і разгублена паглядзела на гаспадара. Той, зазлаваўшы, падбег, схапіў малую і шпульнуў назад».

Адразу адчуваецца, што аўтар скарыстаў тут літаратурны прыём. І даволі зацяганы.

Нерацыянальна карыстаецца Міхась Барэйша і фактаграфічным матэрыялам. Як вядома, мастацкі твор набывае сваю значымасць не толькі дзякуючы колькасці фактаў, падзей, герояў. Важную ролю адыгрывае і такая катэгорыя, як мера. На жаль, пачуццё меры нярэдка здраджвае маладому пісьменніку. Гэта характэрна нават для самых лепшых апавяданняў зборніка. Адсюль, відавочна, і некаторая штучнасць у развіцці канфлікту, псіхалагічнай напоўненасці вобраза, сцэны. Слабая патрабавальнасць аўтара да напісанага ўласнай рукой прыводзіць часам да непатрэбных, неапраўданых паўтораў. Можна спаслацца на адно з лепшых апавяданняў М. Барэйшы «Аварыйнае асвятленне». На старонцы 156 аўтар зазначае: «З прыходам начальніка цэха Ціхамірава ў калектыве пачаўся нейкі распад». І літаральна праз некалькі абзацаў празаік зноўку настойліва даводзіць: «Але з прыходам у цэх Ціхамірава і Краўца многае змянілася, парушылася». На добры лад і першы сказ, і другі — лішнія, бо і так чытач добра разумее ўсю тую неразбярыху, несправядлівасць, што пачаліся ў калектыве з прыходам гэтых не дужа станоўчых асоб.

На жаль, гэтыя пралікі маюць рэальную магчымасць перарасці ў своеасаблівую «адметнасць» стылю пісьменніка.

Імпануе, што М. Барэйша даследуе надзённыя тэмы: акцэнтуе ўвагу на вытоках фарміравання характару і светапогляду сучасніка. Але не заўсёды жаданне празаіка падмацоўваецца ўменнем, мастакоўскім майстэрствам.

На мяжы жыцця і смерці Сцяпан Вавула («Калі прыйдзе світанне») удумліва азіраецца на пройдзеную ім пуцявіну. На бальнічным ложку вырашае ён для сябе найцяжэйшае, найпакутлівейшае пытанне — для чаго ён прыйшоў на гэты свет і якую памяць пакіне пасля сябе. Але калі Сцяпан пачынае нарэшце разумець, што трэба перайначыць сваё жыццё, павесці яго на новы лад, прыходзіць смерць. Як запозненая адплата за скалечаны ўласны лёс — паламанае жыццё жонкі і сына.

Праўда, калі гаварыць пра глыбінныя вытокі канфлікту ў апавяданні, то ўсё ж такі трэба пагадзіцца з думкай А. Сідарэвіча, які ў свой час дакараў Міхася Барэйшу за вывядзенне жыццёвых няўдач галоўнага героя з ваеннай пары.

Многія героі Міхася Барэйшы знаходзяцца ў няпростых пошу-

М. Барэйша. Крыніца, чыстая вадзіца. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1988.

**заіна — як, зрэшты, і ў іншых пісьменнікаў —катэгарычна не прымаеш. Вобразы, сюжэтныя хады, ідэйныя матывы надта ж ужо знаёмыя, апрабаваныя, нават зацяганыя. Гладкапіс, абкатанасць фразы, ураўнаважанасць, залішняя правільнасць, адпаведнасць агульнавядомым ісцінам і догмам: усе героі дакладна ведаюць, куды не трэба ісці, дзе забароненая зона... Дзе тая духоўная разняволенасць пісьменніка (гэты дакор прымаю і на сябе), шал яго творчай сілы, дзе смеласць і навізна пагляду на свет, — усё, што і робіць пісьменніка пісьменнікам?! Жывога непрафесіяналізму — вось чаго нам, кажучы іначай, не стае.**

Безумоўна, на першым плане кніжкі В. Гардзея — аповесць «Жыта ганьбу не заслоніць». У ёй нібы сышліся ўсе сюжэтныя сцяжыны, мастацка-ідэйныя матывы ягоных апавяданняў: радасць сялянскай працы, высакароднасць учынкаў, душэўная, амаль брацкая еднасць вяскоўцаў. А ў першую чаргу — ідэі дабра і зла, іх напружанае процістаянне.

Ёсць у гэтай аповесці і новае. У сюжэце-сітуацыі яе, у мастацкай форме. Ёсць тут і элементы займальнасці, нават дэтэктыўнай інтрыгі.

На мастацкую форму аповесці звяртаеш увагу адразу, калі бярэшся чытаць твор і ўспамінаеш, што В. Гардзей яшчэ і паэт. Усцешвае добрая фактурнасць, натуральнасць, пераканаўчасць твора.

Вобраз Насці Санцэвіч, адзінокай салдаткі-ўдавы, яшчэ маладой жанчыны — эмацыянальны асяродак, вузлавы нерв аповесці. У вобразе і ў лёсе Насці Санцэвіч аўтар увасобіў вобразы і лёсы ўсіх гаротных удавіц-паляшучак, у добрым суседстве і сяброўстве з якімі жыве Насця. А лёс у гераіні сапраўды трагічны. Мужа-партызана ў яе на вачах забілі. Дзеці памерлі ад крываўкі, страшнай спадарожніцы нястачы, нішчымніцы, войнаў. І Насця праз усе гады жыве трывогай і балючым пытаннем: хто ж выдаў яе мужа і навошта? Толькі выпадкова дазнаецца: выдала Барабаніха, аднавяскоўка. Тады ж Насця і творыць сваю страшную і суровую малітву: умольвае бога, каб стрэліў перуном у хату Барабаніхі.

Ёсць, канешне, у аповесці В. Гардзея і мастацкія пралікі. Гэта і нічым не апраўданыя, зусім лішнія сцэны з «лягчаннем» казла Мітрафана, з апрыходваннем яго на мяса, — якіч суправаджаюцца пустымі блазенскімі жартамі, смехам. А гэта відочна зніжае агульнае гучанне твора, сур'ёзнае і высакароднае.

Заўважаецца і лакіроўка колішняга жыцця. Бо празаік чамусьці абышоў усю праўду пра калектывізацыю ў Заходняй Беларусі.

Аповесць В. Гардзея «Жыта ганьбы не заслоніць» добра ўпісваецца ў мастацкую плынь празаічнага зборніка «Карані вечнага дрэва». Дакладная, удалая назва. Гэта, па сутнасці, разгорнутая і тым часам лаканічная метафара. Карані — то вясковы люд; імі трымаецца і квітнее векавечнае дрэва жыцця.

**Міхась ВЫШЫНСКІ.**

---

**ушанкой пот с лица стирает,**
**он вилы острые воткнул**
**и тяжело приподнимает.**
**И под ноги он прячет взор,**
**не замечает инженера**
**и зло ворчит на транспортер:**
**«Стоишь, железная холера!..»**

Разам з рэалістычнасцю верш гэты пакідае, аднак, і адчувальнае ўражанне ілюстрацыйнасці.

Пошук адказу на пякучыя пытанні быцця, прага духоўнага ўзбагачэння і душэўнай раўнавагі, спасціжэнне асабістай далучанасці да людской слязы і ўсмешкі нараджаюць той псіхалагічны стан, пра які лірычны герой, пасажыр начнога цягніка, усхвалявана гаворыць:

**Меж гор и рощицей зеленой,**
**прощаясь, радуясь, виня,**
**душа за далью заоконной**
**летит отдельно от меня.**
**Себе не чувствуя предела,**
**полет немыслимый верша, —**
**не может быть, чтоб не прозрела**
**и не очистилась душа.**

Прадбачу здзіўленае запытанне: «Няўжо ўсё сапраўды так бездакорна ў гэтай кнізе?» Не. Зусім не ўсё тут успрымаецца аднолькава, не ўсё пазначана глыбінёй. Асобныя вершы здаюцца сканструяванымі, халаднавата - «рассудочными» («Что-то грустное пророчит...», «Не надо себя жалеть...»). З налётам літаратурнага паходжання, з той тлумачальнасцю, якая балансуе паміж зразумелай праматой і дыдактычнасцю, уяўляюцца мне вершы «Душу просто увидеть...» і «Опять забывчиво ворчу...».

Залішняя сухаватасць з ноткамі маралізатарскай прамалінейнасці адбілася і на іншых творах.

Гаворачы пра тое істотнае, што ёсць у кнізе, і пра тое, што зніжае ўзровень яе гучання, збядняе яе эстэтычную вагу, абмяжоўвае рэзананс успрымання, трэба адзначыць сярод іншага і пэўныя аўтарскія паўторы, аднатыпнасць мастацкага вырашэння, празмерную камернасць, паслабленую апісальнасць, дэкларацыйнасць.

Адзін з лепшых рускіх паэтаў XX стагоддзя Мікалай Забалоцкі ў адносінах да верша вылучыў наступную трыяду родавых адзнак, якія павінны быць у непадзельнасці: «Думка. Вобраз. Музыка». Ядро новай кнігі І. Катлярова ў асноўных, вызначальных якасцях адпавядае гэтым патрабаванням. А сам паэт, разважаючы пра свой творчы лёс, сказаў у вершы «Судьбе» дакладна і сцісла:

**Дай мне себе не солгать!**
**Если себе не солгу, —**
**может быть, правду сказать**
**людям о людях смогу.**

**Віктар ЯРАЦ.**

---

**нах сапраўднага сэнсу свайго жыцця. Кідаецца, напрыклад, па душэўную заспакоенасць і раўнавагу ажно ў бязмежны стэп Казахстана безыменны герой апавядання «Жыві светла». А вось Васіль Рыгоравіч («Камета Галея») замест чарговай паездкі на прэстыжны поўдзень выбіраецца на адпачынак у родную вёску, і ў горад вяртаецца ён ужо крышачку іншым. Вось толькі ці надоўга? Тэхнакратычны век зрабіў яго сваім вечным вязнем. Да ўсяго ён, як сапраўдны тэхнакрат-рацыяналіст, падыходзіць выключна з папраўкай на карысмасць. Хоць і ведаў, да прыкладу, што старыя боты, якія ляжалі на гарышчы, памяць для бацькі — у іх той у Берліне сустрэў Перамогу, — але ўсё роўна падраў на скураты-завесы да вечка крыніцы. М. Барэйша праўдзіва заўважыў, як тэхнакратычнае пакаленне здатна спрытна падмяніць дэфіцыт памяці дэфіцытам, так бы мовіць, рэчыўным, матэрыяльным. Паказальная ў гэтым сэнсе рэпліка Васіля Рыгоравіча на бацькаву злосць і хваляванне.**

**— Ну, бацька, боты — не памяць. Я табе лепей чаравікі куплю. Югаслаўскія, натуральнае футра. Дэфіцыт!**

**Так надзіва проста адбываецца падмена паняццяў, страта гістарычнай памяці. Вось так, відаць, і нарадзілася інфантыльнасць цэлага пакалення, якое абсалютна абыякавае да гісторыі, традыцый і звычаяў свайго народа.**

**...Уражанні ад зборніка апавяданняў Міхася Барэйшы далёка неадназначныя. Празаік скіроўвае сваю ўвагу на сучасніка, імкнецца разабрацца ў яго характары, адшукаць вытокі супярэчлівасці светапогляду і збяднення духоўнасці. Тэма гэта ва ўсе часы была надзённай. І тым больш цяпер. Распрацоўваючы гэту праблему, М. Барэйша празмерна залежыць ад багатага вопыту літаратуры, не выходзіць за яго межы. Разам з гэтым у творчасці празаіка заўважна імкненне да прыхарошвання, ідэалізацыі станоўчага героя. Адсюль жа застаецца ўсяго паўкрока да няпраўды. І каб гэтага не здарылася, маладому пісьменніку трэба пазбавіцца найперш паспешлівасці.**

**Міхась КАРПЕЧАНКА.**
г. п. Бялынічы.

---

*Віншуем!*

**16 лістапада споўнілася 75 гадоў вядомаму нашаму перакладчыку Язэпу Семяжону. Праўленне СП Беларусі накіравала юбіляру прывітальны адрас з пажаданнем усяго самага добрага ў жыцці і ў творчасці.**

**Супрацоўнікі «ЛіМа» далучаюцца да гэтага цёплага пажадання і зычаць Язэпу Ігнатавічу добрага здароўя і далейшага плёну ў мацаванні мастоў дружбы і ўзаемаразумення між народамі.**



# Тры ўрокі ў Семяжона

Бадай, кожны, хто мае дачыненне да практыкі, тэорыі ці гісторыі мастацкага перакладу, бярэ ў Язэпа Семяжона свае ўрокі творчасці і майстэрства. Якія гэта ўрокі і колькі іх — залежыць ад нас саміх.

Іх было, напэўна, больш, але вылучу тры. Тыя, што — на ўсё жыццё.

Яшчэ і дасюль помніцца, як у дзесятым класе я набыў у кнігарні невялікі вершаваны зборнічак у цвёрдых малінавых вокладках — «Шатландскую славу» Роберта Бёрнса. Пасля дзесяткаў нудных праграмных вершаў, асобныя з якіх трэба было яшчэ і на памяць завучваць, гэта было як адкрыццё, як азарэнне. Паэзія сама ўваходзіла ў душу, у свядомасць, выклікала ўсмешку і слязу, гнеў і радасць. Радкі лёгка і адразу запаміналіся. З таго часу я запомніў і «Наказы», «Усё як вымерла наўкол...», і «Фіндлея», і «Шчаслівага ўдаўца», і «Споведзь бабыля», і многае іншае. Хоць, здавалася б, што агульнага ў савецкага школьніка з тым, пра што яшчэ ў XVIII стагоддзі пісаў шатландскі (блізкі свет!) паэт? А вось знайшлося, нягледзячы на часавыя і геаграфічныя адлегласці! І зблізіла нас, паэта і чытача, яе вялікасць Паэзія.

Прызнаюся: тады адразу я не звярнуў увагі на прозвішча перакладчыка, набранае дробным шрыфтам: Язэп Семяжон. Мяне ўразіў сам паэт, які так арганічна гаварыў па-беларуску, так дасціпна, вобразна, дакладна, што многія выразы тут жа выляталі са старонак кнігі крылатымі выслоўямі: Бязмен — без змен, не зменіцца; Маладому з маладою маладое ў галаве; Ну які ж гэта муж, што ні ў прыпражку, ні ў гуж!; І ста разлукам не разняць два сэрцы-спарышы!; Лепш майстраваць і гадаваць, чым забіваць у войнах; Што клёпкі ў цябе не хапае, павер мне, — зусім не паклёп... А якія кондавыя, якія сакаўныя беларускія слоўцы пазвоньвалі, зіхцелі ў вершаваных радках! Шатландзец Бёрнс адчувальна папоўніў мой беларускі лексікон.

Дык у чым жа сутнасць самага першага семяжонаўскага ўрока?

А ў тым, што галоўнае ў перакладзе *паэтычных твораў — узнаўленне самае Паэзіі.* Усё іншае ў параўнанні з гэтым адыгрывае ролю другарадную, дапаможную. Нават — семантычная дакладнасць.

Не, я зусім не за перакладчыцкую адвольнасць, калі, бывае, скажаецца сама ідэйная задума аўтара арыгінала. У ідэальным перакладзе паэтычнасць павінна знаходзіцца ў арганічнай еднасці з дакладнасцю сэнсавай, змястоўнай. Але рэй у перакладзе паэзіі павінна ўсё ж весці паэтычнае мастацтва. Бо пры ўсёй яго няўлоўнасці «паэтычнае рэчыва» рэальна існуе, яно такі ж кампанент твора, як змест, ідэя, вобразны свет. І страта яго — няменшая шкода, чым скажэнне ідэйнай задумы пісьменніка або перайначванне канкрэтнага зместу твора.

Зразумела, далікатна і дакладна ўзнавіць у перакладзе «паэтычнае рэчыва» арыгінала, тое, па словах Льва Талстога, «ледзь-ледзь», што робіць мастацтва мастацтвам, можа толькі паэт. Сапраўдны паэт. Ды і то не кожны. Бо талент паэта-перакладчыка яшчэ больш рэдкі, чым талент паэта арыгінальнага. Пра гэта кажа той факт, што далёка не ўсе выдатныя паэты з'яўляюцца такімі ж выдатнымі перакладчыкамі.

Амаль усё, да чаго дакрануўся Язэп Семяжон, пазначана высокай паэтычнасцю. У свой час сапраўднымі падзеямі культурнага жыцця рэспублікі сталі, апрача перакладаў з Роберта Бёрнса, яго ўзнаўленні твораў італьянца Джані Радары, лацінамоўнай паэмы сярэдневяковага паэта Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра», славутай паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш»... Зусім заслужана перакладчыку за яго творчыя дасягненні былі прысвоены ганаровыя званні лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы і прэміі Саюза пісьменнікаў СССР імя М. Ціханава. Канечне, у такім значным творчым даробку можна адшукаць і паасобныя недакладнасці, агрэхі. Не забудзем, што адно ў выбранае перакладчыка — кнігу «Сем цудаў свету» (1977) — увайшлі творы 69 паэтаў, што пісалі на 13 мовах, а адзін «Пан Тадэвуш» налічвае звыш 10 тысяч вершаваных радкоў. Важней іншае: пры ўсіх прыватных недахопах (якія, зрэшты, заўважаюцца не столькі чытачом, *колькі спецыялістам-філолагам*) усё, што зрабіў і, верыцца, яшчэ зробіць Язэп Семяжон, — гэта агромністы, неацэнны ўклад у беларускую нацыянальную культуру. Уклад, які без боязі дыспрапорцыі можна супаставіць з укладам *перакладчыка Барыса Пастэрнака* ў рускую культуру.

Другі семяжонаўскі ўрок датычыць перакладчыцкай стратэгіі. Каго, што, з якіх моў і літаратур перакладаць? Пытанні не такія простыя, як здаецца на першы погляд. Але Язэп Семяжон адказаў на іх даўно і адназначна. Узнаўляць патрэбна толькі творы выдатныя, якія могуць узбагаціць родную для перакладчыка літаратуру і культуру. Акно ў свет іншанацыянальнага твора — гэта яго моўная сістэма, без ведання якой за пераклад няма чаго і брацца. Несумненна, каб прыйсці да такіх ісцін, тым больш — каб за імі ісці ўсё жыццё, неабходна высокая гуманітарная культура, добрае валоданне замежнымі мовамі. І тое і другое Язэп Семяжон набыў настойлівай самаадукацыяй, а таксама вучобай на факультэце замежных моў Мінскага педінстытута, які ён скончыў яшчэ ў 1938 годзе.

Нарэшце, хочацца прыгадаць і настаўніцкі ўрок у прамым сэнсе гэтага слова. Так здарылася, што Язэп Семяжон выкладаў нам, аспірантам БДУ імя У. І. Леніна, англійскую мову. Пасля працяглай службы ў Савецкай Арміі і працы ў Мінскім сувораўскім вучылішчы Язэп Ігнатавіч на самым пачатку 60-х гг. прыйшоў працаваць у Беларускі дзяржаўны універсітэт. Некалькі пакаленняў студэнтаў і аспірантаў назаўжды запомнілі не толькі яго старанні навучыць замежнай мове, але і чыста чалавечыя якасці: дабрыню, мудрыя гутаркі не толькі пра мову, але і пра само жыццё, імкненне зразумець свайго вучня, дапамагчы яму чым мага. У той даволі суровы час Семяжона, здаралася, папракалі ў «залішнім лібералізме». Сёння з дваццаціпяцігадовага аддалення я бачу, што гэта ўсё было якраз тое, да чаго мы прыходзім толькі цяпер: дэмакратызм, галоснасць. Так, і галоснасць. Бо Язэп Ігнатавіч, які вельмі многае ведае зусім не па чутках, яшчэ ў тыя гады даверліва расказваў нам і пра прымусовую калектывізацыю, і пра рэпрэсіраваных беларускіх пісьменнікаў (у тым ліку пра У. Галубка, у тэатры якога сам адзін час працаваў), і пра невядомыя нам падзеі Вялікай Айчыннай вайны — уласна, пра тое, пра што становіцца вядомым толькі зараз. І гэта было, мабыць, не менш важным, чым само вывучэнне англійскай мовы. Бо фарміравала светапогляд, вучыла нешаблоннаму мысленню, рыхтавала да самастойнага жыцця.

Не выключаю, што знойдуцца тыя, каго ў жыццёвай і творчай пазіцыі перакладчыка не задаволіць тое-сёе. Аднак і ў такім разе не спыняецца працэс навучання ў Семяжона, яго творчае ўздзеянне — няхай сабе і «ад адваротнага». Бо перад намі сапраўдны творца. Талент рэдкі і надзвычай арганічны.

**Вячаслаў РАГОЙША.**

## Паэзія

Алег САЛТУК



### Мне трэба...

Мне трэба ненавідзець і любіць,
Бо зло з дабром ідуць заўсёды поруч.
Дабро я помню.
Не магу забыць
І зло — мне неабходна яго помніць.

З дабром я рос сярод сясцёр-бяроз.
Шчаслівым быў сярод аднавяскоўцаў,
Калі ішоў адранкам на пакос
І ззялі росы ў першых промнях сонца.

Я зло спазнаў, як старшынёўскі сын
Адмовіўся са мной сядзець за партай.
Яму заўжды сваім быў магазін,
Я ж паўгалодны бег дадому ўпарта.

Мне скажуць сёння:
— Гэта ж — драбяза,
У параўнанні з вечнасцю сусвету,
О, не — баліць дзіцячая сляза,
І не забыць ніколі мне пра гэта.

Так, у жыцці ўсялякае было
І, можа, не такое яшчэ будзе.
І мне патрэбна ненавідзець зло,
Калі дабра хачу я добрым людзям.

### Гром

На голы лес зязюля кукавала:
Вясна, нібыта сонная, ішла.
Не кукавала птушка, а крычала
І крык ляцеў адчайны з-пад крыла.

Лес, сапраўды, яшчэ быў гола-чорны
Са светлымі праменнямі бяроз.
А ў небе гром ужо раскручваў жорны
І бліскавіцы спуджаныя нёс.

Гром загрымеў і рэхам раскаціўся,
Аж задрыжэў і абачнуўся бор,
І першы ліст зялёны распушыўся,
І крык зязюлін здзіўлены замёр.

Ды недарэмна птушка кукавала
Тады на гэты чорна-голы лес:
З грамамі разам цішу разарвала
На сто гадоў:
ЧАРНОБЫЛЬ І АЭС.

Не кукаваць у лесе тым зязюлям,
Не голы ён, куды страшней — нямы.
О, людзі-людзі, позна мы адчулі:
Чарнобыль — гэта ж з ядзернай зімы!

### Крыкуны

— Чарнобыль папярэджвае, — крычым.
Нібыта не было ўжо Хірасімы!..
Нікому крыкам не дапамагчы,
Калі бяду мы разам не асілім.

Дазіметры?
Навошта нам яны:
Усё ў парадку ў нашым добрым краі...
Хварэем?
Не пазбегнуць нам віны:
Не ходзім пехам і пераядаем...

Выкручваемся, хлусім, а каму?
Яшчэ б сказалі, усё ад бога гэта.

## На жыццёвых скрыжаваннях

Марыя ВАЙЦЯШОНАК

# Сцежкі любові

МНЕ гэтыя арабіны сёлетняй восенню кідаюцца ў вочы здалёк. Здарожаныя танклявыя маладзіцы ў кашміроўках, слабка, па-вясковаму падперазаўшыся, абы пасак налажыць, ідуць бы па старым гасцінцы,—усё неяк яны каля дарог, усё неяк скраю, збоку. А тая, што каля дома Антаніны Пракопаўны Хаванскай у вёсцы Яроміна, стаіць пад вокнамі, смеючыся, пераступае ад ветру з месца на месца, як цыганка, вясёлая, дзяркатая. Пазаве да сябе гаспадыню на вуліцу, наваражыць усяго добрага, — як не паверыць. За зіму, і праўда, як цыганка, усё сваё збудзе: і кашміроўку з брындамі, і пацеркі птушкі разнясуць, а ўвесну абсыпіцца кветкамі, кветкі тыя па каму, пах густы, спелы, цьмяны, што і мужчына азірнецца, пачуўшы.

Быццам і весялей, хоць і не зусім па характару гаспадыні арабіна-цыганка.

А калісьці, пятнаццаць год таму назад, калі я першы раз прыязджала да Хаванскай, на гэтым месцы, дзе цяпер арабіна, расла маладзенькая вярба (Антаніна Пракопаўна яе была пасадзіла ў жалобе, калі пахавала мужа Мікалая Пятровіча, старшыню аднаго па той пары з лепшых на Гомельшчыне гаспадарак калгаса імя XXII з'езда КПСС). Тады мяне цікавіла, здзіўляла, што жонка старшыні, гараджанка, аж з Сухумі, маючы траіх дзяцей, не ўступіла мужу ў справе і нават, працуючы дырэктарам Дома культуры, атрымала званне заслужанага работніка. Гэта ж век адны госці з хаты, другія — у хату, то прыезджыя, то наезджыя, сам гаспадар перак дарогі кожнаму становіцца, заве да сябе, бо няма дзе сталавацца, няма і гасцініцы. Скочыць яна за смятанай у магазін, а бабы з фермы пераймаюць: «Ай, Пракопаўна, Хаванскі ўжо ўсе хвасты каровам пераглядзеў». Яна назад, у клуб, а ці прыбрана? Гэта было невыносна, калі ён знаходзіў пыл на поручнях. Хвалілася Гомельшчына старшынёй, хвалілася яго жонкай. І да Мінска дайшло.

Памятаю, іграла музыка, я трапіла якраз на рэпетыцыю духавога аркестра. У плашчы-дажджавіку прыйшоў на заняткі харавога гуртка аграном Даўгун, вінаваціцца, што наследзіў на чыстай падлозе, маўляў, адразу з поля, у шэсць раніцы як выйшаў з хаты, так яшчэ і не заходзіў дамоў, усміхаўся, ужо жартуючы, што выходзіць, быццам ідзе сюды на спатканне, бо жонка пэўна даўно тут. Каля каміна займаліся практыканты з горада. Пра ўсё даведалася ад яроменскіх людзей: і пра добрыя традыцыі ў калгасе — кожную пару года, кожны гаспадарчы этап адзначаць як вялікае свята, пасвячэнне ў хлебаробы, ганаровае ўшанаванне калгасных дынастый Багданавых, Сусікавых, тройкі з брындзёлкамі пад Новы год, і калоны машын, прыбраных кветкамі, істужкамі, насустрач Вясне, Восені, заняткі гурткоў, клубаў, работа ансамбля песні і танца «Колас», ён выступаў у Мінску, у Кіеве, Чарнігаве, Маскве, Літве, меў званне народнага. Антаніна Пракопаўна сама пісала сцэнарыі і кожны год новыя... Поўнае ўражанне, повен блакнот, заўтра трэба ад'язджаць. А пра Хаванскіх ані слова — свежае гора, нельга трывожыць.

Гаспадыня паслала мне ў сваім доме наверсе, перад сном прынесла кубак малака. На людзях яна інакшая, нічога па ёй не пазнаеш, а дома... падымалася да мяне марудна, вялікая, цяжкая і гатова была ўжо павярнуцца, пайсці ў пакой да сябе. Можа, што стаяла ноч, поўняй засвяціўся ў цемры кубак малака — шчыры, ад астатняга сялянскі пачастунак падарожніку, спрадвечная простая матчына вячэра, тая цёплая кропля, якая не абсохне на вуснах да скону, бо кожны з нас у прыроды малочнае дзіця. А можа, што я сама, спазнаўшы каханне, пазнавала, магла яго чытаць і на малазнаёмым, немаладым твары. Але гаспадыня раптам загаварыла. Толькі вось шкада, не лапнеш па кішэні, седзячы ўжо ў начной сарочцы, не дастанеш блакнот, не запішаш, адно адчуванне, што трапіў пад іхнюю зорку, і будзь ты хоць астатнім недаверкам, а падумаеш пасля, як баба прымхлівая, хай сабе і не спраканаўшыся: ёсць нешта на свеце, толькі рэдка каму яно выпадае...

«Нічога не здарылася?» — запыталася яна ад парога, убачыўшы мужа нязвыкла засяроджанага, маўклівага. — «Здарылася...» — адказаў. Мікалай рашыў ехаць старшынёй калгаса ў сяло Яроміна. Добра, паедзе і яна. А сама думала аб іншым. Так, Яроміна, як ён растлумачыў, слабое — шэсць цэнтнераў з гектара, з чаго людзям разжыцца, калі вайна нядаўна прайшла. Цудоўна, што ён спяшаецца да людзей на дапамогу, але калі гэта Хаванскі перагнаў яе, перарос? Ці даўно тое было, што разам меркавалі, куды яму пайсці вучыцца? Ён жа не чытаў Маякоўскага, якім яна захаплялася асабліва, не ведаў, хто такі Овад, не то што. Як жа яна спужалася, калі, прыехаўшы з сынам Жэнем з раддома, убачыла на сценах сваёй гарадской кватэры паштоўкі з галубамі ды кацянятамі (ён рыхтаваўся да сустрэчы!), не хапала толькі ў доме (а яму ж падабалася!) альбома з вершыкамі накшталт: «Кто любит больше тебя, тот напишет ниже меня»... Як паглядзець збоку, не ў крыўду кажучы, быццам звычайны вясковы дзічок, а душа, бачыш, прызнавалася сабе, харашэйшая за ейную гарадскую. Вайна, разруха, ёй хацелася нарэшце крыху перадыхнуць, пажыць дзеля сям'і, яна ж матка, яна, нарэшце, юрыст, што будзе рабіць у вёсцы?

...Жывуць тут, у Яроміне, па сонцу. Хаванскі прыходзіў дамоў позна, змораны, пасталелы. Адна гаворка, што пра калгас. «Марыя Сусікава — во дзе даярка! А Фрося Кірылава, каб ты ведала!» А той, а гэты, нехта іншы ішоў з ім побач у цяжкую мінуту. Не раз бачыла, стоячы ўбаку, як ён смяецца, аб нечым гаворачы з калгаснікамі на вуліцы, шуткуе. Незнаёмыя галасы, чужая гаворка, загарэлыя да смолі твары — адны вочы блішчаць — не падысці. Не, так болей не вытрымаць. Здавалася, спыніўся гадзіннік. «Каторы час? — яна зайшла ў кабінет на досвітку, паперы на стале, на падлозе гурбамі. Здавалася, разам з ім не спаў увесь дом з бляклым святлом у вокнах-вачніцах. Увесь дом, уся вуліца, вунь ужо кароў выганяюць, яны ці то ідуць, ці то стаяць, адны бакі калышуцца, наставілі рагавінне, нехаця рыкаюць, трубяць, падымаюць каторую гаспадыню, што заспала. Усё сяло разам з ім, акрамя, праўда, яе. Не, яна не пакаёўка і не канторская. На наступны дзень прынясе ў кантору ўжо падпісаную заяву. «А зможаш?» — Хаванскі сумняваўся, бо дзевяты чалавек пабег з клуба ў горад. «Якраз тое месца, дзе табе туга...» — падумала сабе.

Як разумела культуру на вёсцы? Вядома, Маякоўскі не зашкодзіць, але найперш трэба зведаць на смак, пакаштаваць акраец гэтай зямлі... Жніўнае поле разаслалася настольнікам, коціцца па ім гарачы хлебны дух, быццам адставіла гаспадыня ў печы засланку. «Не палі агнём высокае сонейка, не калі мне ножанькі так, аржоненька»... — Марфы Бажковай голас, на другім канцы камбайн вядзе ноту па-мужчынску, дрыготка, не распяваючы; баба хустку скіне на плечы толькі добра ўгрэўшыся, валасы ззаду заламаным залатым перавяслам; нерухома, ахвярна пастануць на зжатым полі постаці буслоў; няможна гэтай парой, калі жніво, лом лажыць, бо Палікоп на чырвоным кані прыляціць, запаліць вехаць, агонь снопам ускінецца, затрашчыць, пасыплецца на зямлю гарачы прысак зярнюкамі, загарыцца капа жыта, загарыцца хата, загарыцца дрэва, нават чырвоную блюзку трэба асцерагацца надзець, каб вогнік не прыкінуўся. Толькі сарве ёй старая жанчына чырвоную ружачку, адну самую кветку, без сцябла, без шыпоў, каб ёй, маладзенькай ды гарадской, рукі не ўкалоць...

І дзяк яромінскі Белабжэцкі, хто ні зойдзе да яго, стары ці малы, кожнага ўважыць, кветкі ў руку дасць, з кожным пагаворыць, ідуць ад яго людзі сцішаныя, замілаваныя, як анёлы. Пэўна, культурны, добры чалавек? Вядома, яна не была веруючай, але чамусьці смутна стала (і цяпер гэта ўспамінаецца), калі аднойчы, зайшоўшы ў царкву (старшыня сельсавета паслаў паглядзець, хто туды ходзіць), пачула з усіх бакоў шэпт: «Хаванская... Хаванская... Хаванская...» Можа, толькі якіх пяток чалавек не заўважылі яе, молячыся. Усяго пяць шчыра веруючых? І сам бацюшка Андрэй, пэўна, не моцна верыў, бо таксама быў «збочыўшы», калі яе ўбачыў, блытаўся, прычашчаючы тых, хто спавядаўся, забываўся перачакаць, пакуль чалавек вусны абатрэ, прыняўшы прычасце. Вера ў чалавека, вера хай сабе і ў бога, вера ў сваю справу, якой, дарэчы, проста, пачэсна служыў і калгасны аграном — семенавод Іван Тутко, яму, як зарок, малое звычайнае зярнятка, кожнае мусіў зберагчы, даць жыццё. І ўжо праз гады, калі хавалі Івана, яна адна з чужых засталася каля труны на могілках (ліў лівень, усе, хто быў, разышліся), засталася ў дарагім новым паліто, падарунак Хаванскага, «вось такое, як намокла, рукаво, па самы локаць сарвалася», — успамінае яна як аб нечым непазбежным.

Яна ва ўсім дашуквалася сапраўднага, дасканалага, бо сама менавіта так будавала свой дом, свае адносіны з людзьмі.

Разам абмяркоўваецца, як пабольшыць залу ў клубе, які сцэнарый цікавейшы, разам у полі, разам урачыстыя вечары. Як яна хвалявалася, калі ў час шэсця заслужаных калгаснікаў (Хаванскі ішоў з імі разам), бачыць, ён загаварыўся, нечага забавіўся, ужо адзін крок застаўся, раптам пройдзе, не заўважыць, што тут да чаго, на сцэну першым, ледзь стрымалася, каб не закрычаць, папярэдзіць. Не, не прайшоў. Яшчэ ісці і ісці побач, падтрымліваючы адзін аднаго, папярэджваючы, ва ўсіх на вачах, як век па вясковай вуліцы, ні з чым не схаваешся, не захінешся ні ад каго, не ўкрадзешся: ні з бядой, ні з хваробай, ні з каханнем... Яшчэ якая пара!

Яго не стала раптоўна, інсульт. Усё здавалася, што затрымаўся ў канторы, такая звычайная праз усе дваццаць пяць гадоў у калгасе справа. Прынеслі з хаўтур здымкі — не ўзяла, яшчэ не верылася. Можа, трэба было б сядзець дома, праводзіць, сустракаць, пільнавацца: а ці паеўшы, а ці пераапрануўся пасля дажджу, глядзець, берагчы? Але ж, суцяшалася, быў такі цяжкі час, што адным сваім домам не задапаможышся, як гаворыцца, у адну вупраж трэба было запрагчыся, кахаючы такога чалавека. Пасадзіла пад вокнамі вярбу, тую, што век да самай зямлі веццем, як усё роўна галосячы. Сама не галасіла, валасоў не рвала — людзі былі побач, не адна засталася, уся вёска ў жалобе. І прыкраму чалавеку стала вусцішна, бо пачыналі ў Яроміне з пяцідворкі, самахоць, ніхто іх у калгас не заганяў, з зямлі падняў Хаванскі гаспадарку, за ім і разжыліся. На радаўніцу ўсе механізатары паставілі трактары каля могілак, пайшлі да Хаванскага, як у кантору, павітацца. Новы старшыня дазнаўся — не залюбіў, крычаў, маўляў, жарт, сярод дня, у пасяўную кінулі работу! Яму ўжо было не абараніцца ад нябожчыка: яго імя было прысвоена мясцовай школе, назвалі і вуліцу, прыйдзе каторы ў кабінет і адно тое: Мікалай Пятровіч, Мікалай Пятровіч. Доўга перайначваліся.

Можа, адсюль, з той радаўніцы, і пачалася гэтая абыякавасць, на якую зараз захварэла вёска, цяжка сказаць, вылічыць. Але і поле, як мы ўжо ўсе зараз спраканаліся, не родзіць, калі яго засявае няпамятлівы, нячуйны да ўсяго балючага, да ўсяго прыгожага чалавек. Хто мог ведаць, як яно зашкодзіць, калі не будзеш за работай мець часу спыніцца на ржышчы... Поле ўжо інакшае, ачахла, кастрыцца пах, як ад разламанай у абедзве рукі галавы выцерушанага сланечніка, і там і тут, быццам з пеляны вытрасена, шалупінне абмалочаных каласоў, копы саломы паселі бабамі, паваліліся, светла на зямлі, але ўжо ледзь-ледзь павявае і халадком, як усё роўна ўчарашнім паснедаўшы.

А гэта і не снілася яму,
Калі ён, можа, і ствараў планету.

Не думаў бог пра атам і нейтрон,
Калі Зямлю выводзіў на арбіту.
Вы чуеце — грыміць нябесны звон
Па тых, хто не вяртаецца з нябыту.

## На тым стаю

Франтавікоў радзее раць —
Яны таксама не са сталі,
Яны сваё адваявалі —
Нам трэба сёння ваяваць.

Даўно спакою не чуваць:
Спакой усім нам толькі сніцца.
І праз мяне ідзе граніца,
Якую трэба вартаваць.

Я не дазволю парушаць
Мяжу сумлення і надзеі
Дзялкам і розным прахіндзеям,
Што хочуць праўду растаптаць.

І сродкі ў іх на гэта ёсць,
І ёсць парука кругавая,
І ёсць упэўненасць такая:
Я — гаспадар, а ты, ты — госць.

Не, я не госць, а гаспадар
І сын сваёй Радзімы мілай.
І покуль ёсць у мяне сілы,
Усе Радзіме я аддам.

Мой бацька ў смерці на краю
Быў.
І мне некага баяцца:
За наш я сцяг прывык трымацца
І з рознай нечысцю змагацца —
На тым стаю!

## Сыну

Распяты на крыжы
Быў прадзед твой бяспраўны.
Шануй і беражы
Учынкам добрым, справай
Пакутны свой народ,
Спакутванае слова,
Бо ад яго твой род,
Пачатак і аснова.
З мінулага да нас
Няхай сцяжынка ўецца.
Зямля ва ўсіх адна,
І ў нашых сэрцах б'ецца
Яе і смех, і боль.
І ты іх не адрынеш.
Праўдзівым будзь з сабой,
Маліся, сын, Скарыне
За слова, што жыве,
Святкуе і сумуе.
А як звякуеш век
І кім яго звякуеш,
Сумленна адкажы
Не заўтра, а сягоння...
Шануй і беражы
На троне ці крыжы
Зямлі сваёй далоні.

## Росны ранак

Яблынь цвет густы —
На плады надзея недзе спее.
І стаіш, разгубленая, ты
Сярод гэтай цёплае завеі.

Маладая.
Вочы, як вясна.
Дзве лілеі белыя — калені.
Ты такая на зямлі адна,
Ты — мая малітва і збавенне.

Падбягу
І рукі пакладу
На тваё спалоханыя плечы.
І бяду, і зайздрасць адвяду,
І адпрэчу той самотны вечар,

У які нас занясуць гады,
Каб ужо ніколі не вярнуцца
Ў тыя салаўіныя сады,
Дзе ад шчасця можна захлынуцца.

Скора сцягне восень святочны настольнік, а пакуль гуляе поле, — без голасу, без песні, абы наседзіцца. Рупіць скрозь абысці, абляцець вачыма, быццам некага на гэтым свяце ўважыць. Хто мог ведаць...

Антаніна Пракопаўна памятае, як, калі ўзнікла ў яе ідэя зрабіць калгасны музей (тады яна ўжо была на пенсіі)... У клубе спяваў хлопчык, усім спадабалася, усе цешыліся: жарт, такі малы! Гадоў, можа, восем? А чый жа? Хто бацька? «Васька», — адказвае артыст. Як гэта Васька, а суседзі як бацьку завуць? «Васька», — кажа. Усе смяюцца, забаўляюцца. Яе гэта нечакана пакрыўдзіла. Цешацца, маўляў, малое яшчэ дзіця ды і яблык ад яблыні недалёка адкоціцца, пазнае чый ёсць, як падрасце... Добра ведала: вось у гэтай жанчыны, што так шчыра смяецца, адкаціўся яблык, жыве адна, і ў гэтай, і ў той, колькі іх з'ехала ў горад (Гомель побач), наязджаюць толькі за свежынай, брыдзяцца роднай мовы, і не пазнаеш, хто чый — няма падабенства. Коціцца па гарадах такі вось дзічок без імя бацькавага, без гонару вясковага, без культуры. Збірала па хатах у людзей старыя фотаздымкі, на якіх гэтыя самыя, выбачайце, Ваські стаялі ў лапцях, ва ўсім зрэбным, зрэдку картовае. А вось не такое ўжо і далёкае — Ганна Храміна, цялятніца, мела ордэны, залатыя медалі на выставах. Пэўна, гэта шчасце, найвышэйшы чалавечы сэнс: усё пераадолець, рэлігійна веруючы ў сваю справу на зямлі — ахвярную працу і ўжо перад смерцю, маючы на могілках і радню і сваякоў, папрасіць пахаваць побач са старшынёй, з Хаванскім. Было ў яе просьбе няззжытае трудамі: каля яго блізка дык як у калгасе ўсё роўна, і мацярынскі клопат: а можа, і яму будзе весялей. Так і зрабілі. Ідуць людзі на радаўніцу, заходзяць і да іх, кладуць яечкі пафарбаваныя, цукеркі — частуюць, не паспее радня прыбраць сухія кветкі — прыбяруць, фотакарткі на помніках побач, быццам во прыбраліся, сядзяць як даўней, у прэзідыуме. І праўда, здаецца, не так маркотна, і жывым весялей, гледзячы... Здавалася б, такое асабістае: чыстая Ганніна вера, самаадданасць, але ўсё гэта агульначалавечы скарб, не гаворачы ўжо пра вёску Яроміна.

Сабрала Антаніна Пракопаўна вышыванкі, розныя запінанкі, фіранкі. Сама я бачыла, ручнік (такое дзявочае!), па ім, як па вадзе, па рацэ, дробныя кветкі перабльталіся вянкамі, доўгі ручнік, а каб жа найдаўжэйшы, якраз праз усю дарогу да мілага, да каханага. А бабскі колер — буйнымі кветкамі, гаваркі, дзяркаты, увачавідкі чаплісты — да палюбоўніка. Мова любові. Ступы, начоўкі, начовачкі лёгкія, з асіны, як струк вылушчаны, плечыкі круглыя, поўненькія, трымаеш абеуруч, калышаш перад сабой, як распавітае дзіця, гушкаеш, лёгка ў іх апалаць кмен ці каноплі, «вею, вею, паваяю, буйны вецер зазываю...» Што работа, то і свая да яе песня. Кублы, лубкі, прасніцы падаставала з гарышчаў. Трэба задзержаць, затрымаць усё гэта перад вачыма, каб маладыя добра ўгледзеліся, пазналі не то што як, маўляў, даўней бедна жылі (прывыклі ж параўноўваць, павучаць), а як прыгожа рабіць умелі: што чалавек у рукі не возьме, тое ў яго і загаворыць. Цяпер, пабыўшы ва ўжытку, адшліфаваныя часам, драўляныя рэчы падобны часцей на выкінутыя на бераг пасля вялікага разводдзя разам з пенай абмылкі. Доўга знішчалася на вёсках традыцыйная народная культура, а гарадская, якую ставілі ў план міністэрствы, не даходзіла, а калі і даходзіла, то не надта бралася.

Дарэчы ўспомніць, як стыдаючыся і не адразу кажучы, за якой прычынай, быццам так сабе, не атумысла, заходзіліся ў хату Ніны Марчук на Століншчыне маладзіцы, з твару ўсе цёмныя, як усё роўна толькі што з поля і зноў у поле, прасілі наезджую знекуль з горада (прыехала падзарабіць) жанчыну набіць фарбамі наўлечку, ці ручнік, ці настольнік. Тая пад трафарэт малявала ім кветкі, усім аднолькавыя. Недатыкальна, як у царкве, крыху прывяўшы, бо перасцілаецца звычайна толькі на гадавое свята, звісалі адусюль, слаліся вышыванкі самой гаспадыні. Быццам чашу прычасця пакрываючы, прыбірала Ніна сваю хату. Мроілася ўсё навакол напроці трафарэтных набіванак госці далёкім, бела-ружовым успамінам. Можа, хто і папікнуць жанчын, маўляў, не разумеюць, бачыш, дзе хараство, а дзе падробак, ды і пэўна бабы гультаяватыя—абы на гатовае. Але ж Ніна вышывае, не дасыпаючы па начах, упарта і зацята, не гледзячы ні на моды, ні на выгоды. Бо як рукой, замілавана і ўласна, хіне яе, маці дарослых дзяцей, да сябе, хіліць над белым палатном па начах пара дзявоцкая, калі строй жанчыны быў найперш у руках. У маладых ужо няма той магнасці, той цягі да ручной работы, адкасціліся-такі ад яблыні, толькі во сполахі няўцямнага сораму на тварах, цёмных ад працы, ад сонца. Хіба яны вінаватыя?.. Такія ж набіванкі на лепшае, а звычайна — купленае ў краме, і ў яромінскіх хатах. Дэкультурацыя вёскі, кажучы па-вучонаму.

Збірала карціны мясцовых мастакоў Гаўрыленкі, Каламійцава, кампанавала маленькія выставы. Але, прызнацца, цвёрдай упэўненасці, што робіць вартую справу, што не забаўка ўсё гэта, не было. І вось давялося пабыць у Валгаградзе на Мамаевым кургане. Падымалася адна, ішла вышэй і вышэй, на кожным кроку камень — помнік, пазначаны чалавечай упартасцю, болем, мужнасцю, крывёй — бессмяротнасцю, цяжкая, пакутлівая дарога гнала слёзы, паступова жалоба адпускалася, на душы рабілася неспадзявана чыста, лёгка. Успомніліся ёй тады і тыя пяцёра ў Яромінскай царкве, што не заўважылі яе, Хаванскай, не збіліся з малітвы... Вось чаму патрэбны на зямлі святыя месцы: хай сабе царква, помнік ці музей. Так, і музей. Каб было дзе чалавеку паспавядацца, узяць прычасце: хто ў агранома-семянавода Івана Тутко, хто ў цялятніцы Ганны Храмінай, ці проста ўлюбёна ўгледзецца, быццам на беразе стоячы, у доўгі хаднічок, зроблены рукамі са старога рыззя, паскі наверсе шырэйшыя, хвалямі, ад покуці да парога, а паміж імі светлая аснова мелкім донцам, толькі свіціцца, іграе белы жвірок. Абы было дзе чалавеку ачысціцца ад усяго дарэмнага, уедлівага, грэшнага ці хоць бы ўстрапянуцца, адчуўшы ў сабе жывую душу... Тады яна на кургане сама падымалася да веры ў вечнасць чалавечага жыцця, да веры ў духатворную прыроду яго рэчаў.

Недзе ў 1979 годзе калгасны музей Хаванскай ужо меў званне народнага. А неўзабаве памяшканне музея пільна перастроілі пад танцавальную залу, старшыня калгаса абяцаў: маўляў, у нас ёсць цудоўны праект, будзе дворык пад шклом, фантан, зімовы сад, а побач — яе музей, трэба пачакаць. Чакала, зачыніўшы экспанаты, тры гады, пакуль не агледзелася міністэрства. Перанесла свае манаткі ў школьны калідор, разлажыла, расставіла, як дазволіла «памяшканне», і хутка прыжылася на новым месцы, бо якраз жа трапіла да тых «Васькавых» дзяцей, да «Васькавага» сына, з якога ўсё і пачалося. У класе, у калідоры, проста на вуліцы заводзіла гаворку пра радаслоўную. Дзеці губляліся. А яны ж усе з сялян, амаль усе тутэйшыя, з навакольных вёсак. І вось ужо нясуць ёй у музей свае даследаванні. «Радаслоўная Андрэя Скварцова», на самадзельным дакуменце бардовы цюльпан, як герб. Машковы Света і Каця малююць на аблокцы кветкі, падобныя на дзьмухаўцы. «Мачыха выгнала бабулю з хаты ды ёй напаткаліся добрыя людзі...» Залаты луг зварухнуўся, закратаўся, даўно перапляліся назвы, згубіліся, парадкавала іх дзіцячая рука, галоўка да галоўкі, у вялікі сямейны букет. На вечары «Радаслоўная» сустрэліся бабулі, маці, дзеці. Ёй спадабалася, як перад гэтым на рэпетыцыі дзеці папраўлялі яе, карэкціравалі (яна была ўключыла ў сцэнарый толькі калгаснікаў). «А мая мама на «Сельмашы», дык гэта што — дрэнна?»,

Усе гэтыя яе сцежкі, сцежкі любові, кахання да аднаго чалавека, да яго справы, да яго людзей — да Хаванскага. Залаты пылок іх не абтрасеш з ног праз усё жыццё. І не магла яна не знайсці, не натрапіць яшчэ на адну, можа, на сённяшні дзень самую цяжкую для кожнага з нас, калі напісала ў рэдакцыю, будучы сама рускай (напісала з Ялты, дзе гасціла ў сястры): «Шмат я пражыла, маю 64 гады, шмат чаго бачыла, зведала: і людзей, і гарадоў. А вось сяджу на беразе мора, побач са мной жанчына з Беларусі. Яна ўголас чытае беларускую кнігу. І я сама магу па-беларуску, але адчуць прыгажосць мовы можна толькі вось так, далёка ад родных мясцін... Дзякую, што вы ўзяліся ратаваць родную мову, родную нават мне, рускаму чалавеку...»

О! Гэта было мне самае блізкае, самой перажытае: і нямко, лічу, адлучаны, разлучаны горадам з вёскай, адзавецца, загаворыць на адной з ёй мове, калі меў ён калісьці там хоць аднаго чалавека, якога любіў. Цётка Марыля на Пастаўшчыне... Самая бедная ў вёсцы хата. Палок з саламяным сеннікам, калкі лазовыя ўраслі, слабыя зеленькаватыя парасткі ніхто не абломвае, маўляў, мацней будзе стаяць, каранямі ўчапіўшыся. Спіш на жывым дрэве, як у гняздзе птушыным. А як жа трэба было быць блізка да неба, каб заўсёды закрываць дэнкам ад грому ў навальніцу вядро пад вакном, маўляў, вада агонь прыцягвае. «Божа шчыры! Ты ж вучылася намнога лепей Росціка, а гаворыш, прыехаўшы з горада, па-нашаму»,—дзівілася яна. А мне хацелася быць найбліжэй да яе.

Чакаю Антаніну Пракопаўну з Ялты, званю, дамаўляюся, еду ў Яроміна, амаль святкуючы сустрэчу, святкуючы яе поспехі, яе прамяністы шлях, святкуючы (як нам, журналістам, хацелася б) свой «положительный очерк»...

Спілаваны пень вярбы каля дома, якую садзіла па Хаванскім. Спілавалі без яе, калі была недзе ад'ехаўшыся. Побач стаіць арабіна, пеняцца яе маладыя дробныя кучары з-пад рабінковай кашміроўкі. Каб на злосць спілавалі, дык не, быццам няма ў Хаванскай такіх людзей у вёсцы. То тут, то там каля гародчыка, ля студні сустракаліся нам старыя людзі, спыняліся, паварочваліся тварам да яе, твары цёмныя, цяжкія, ледзь абазначаны рысы, сцёртыя часам, непагаддзю, як на каменні пад небам, плечы нерухомыя, глядзелі доўга, прыязна і раптам... бы хто загаварыўшы, бы толькі ўздыхнуўшы: «Не хваліцеся, Пракопаўна, перад чужым чалавекам, плоту ў вас доўга не было, стары паваліўся... І рамонт вам у кватэры не робяць...» Звычайная абыякавасць. Але ж нехта не пабаяўся падняць руку, забыўшыся на даўнейшыя сялянскія забароны: раптам чалавек, калі садзіў, быў нешта задумаўшы, спраўдзіцца на табе, калі дарма заламаеш. Стаіць па вушы зарослы парк, яго садзілі пры Хаванскім, дрэвы вялікія, я іх не пазнала праз 15 гадоў, дзікая, цёмная цішыня, кажуць, салаўі і днём спявалі, адважыўшыся. Сцежка пад нагамі сырая, вузкая, як праз лес. Паміраe без чалавека панскі гай, забруджана сажалка, пры Хаванскім тут яшчэ купаліся. Неверагодна высокія, магутныя ліпы, бярозы, чалавек сярод іх быццам меншы і жыццё яго пад імі здаецца кароткім, нязначным, калі ўжо ён і сам стаіць па калена ў цвілі, у мёртвай вадзе. Гай побач са школай, сюды дзеці, як казалі маладыя настаўніцы пры сустрэчы, і курыць і не курыць, проста так. Вуліца пасыпана нечым накшталт шкла (боем тэлевізійных экранаў?), босым не ступіш, ледакамі сярод лета вyслізгвае яно з-пад ног, і нямая маска страхалюдка ўслед, з якой выбегла на вуліцу малое дзяўчо, і пагуркі сметнікаў па дарозе на могілкі да Хаванскага, да Ганны Храмінай, да дзяка Белабжэцкага... — як злое зачараванне — нязвыкла для вёскі. Трэба было б зайсці ў сельсавет, але быццам няёмка. Каля будынка свежы сметнік, высокае пустазелле да самага парога, дзверы шчыльна зачынены. Так непрытульна, глуха можна пераседзець тут толькі адтуль, з таго боку зачыніўшыся, па-простаму кажучы, зайшоўшы па сваёй пільнай патрэбе... Што гэта? Адчужанасць? Згубленае пачуццё зямлі, прыроды, якая вякамі выхоўвала вясковага чалавека, узбагачала душу, развівала мову, можна сказаць, служыла жывой галерэяй прыгажосці, дасканаласці? У школе рамонт, там-сям па вуглах непрытульна стаяць прыбраныя з калідора музейныя рэчы. Хаванская хвалюецца, каб не пашкодзіліся, а за Домам культуры ляжаць, уросшы ў зямлю, як на старых кінутых могілках, бэлькі, каменныя пліты таго шкляннога дворыка, побач з якім павінен быў месца музей. Недзе падзелася шыльда (даўно ніхто не бачыў), дзе значылася: школе прысвоена імя Хаванскага. Тут кожны дзень і жонка яго і дачка (працуе настаўніцай), але ж гэта не ў сваёй хаце, каб самому ўбіваць цвік, падымаць, вешаць на месца тое, што табе дарага. На сценах партрэты вядомых пісьменнікаў, дзеячаў. Але ці дайсці нам да разумення велічы таленавітых незнаёмых людзей, калі мы не ўмеем шанаваць сваіх, здавалася б, найбольш зразумелых і блізкіх? І ці запытаўся б вучань у маладой настаўніцы, абыякава, перад усімі: «Чаму вас муж кінуў?», каб не тое што здранцвеў на ўроку, слухаючы аб таямніцах кахання Пушкіна да Ганны Керн, а проста ведаў, якімі няроўнымі сцежкамі ўжо шмат гадоў пасля смерці каханага ходзіць побач з ім у Яроміне вось гэтая жанчына? Калі ёй асабліва цяжка, бароніцца ад згубы работай: зробіць шалік і падаруе таму, хто натрапіцца, дарэчы, і мне перапаў адзін з тых незлічоных сведкаў яе перадумак, крыўд, жалю... І ці збіраўся б загадзя ў дарогу ў горад увесь 9 «А», цікавыя, адчайныя, шчырыя людзі, як у прочкі, абы з'ехаць, каб не парушаны былі сялянскі быт, культура, прырода...

І нарэшце, мушу тлумачыць, мушу прасіць: ўратавацца ад здзічэласці ў свеце, хай сабе і ў горадзе, можна толькі расчысціўшы сцежкі да свайго адзінага ў свеце вясковага ДОМА—сцежкі — любові.

Сто радкоў пасля прэм'еры

# КАГО ЛЮБІЛІ ЯНЫ

**«Яны любілі яго» А. Кертаса (пераклад У. Скарынкіна). Рэжысёр — З. Браварская. Мастак — У. Цімафееў. Кампазітар — С. Картэс. Мастацкі кіраўнік пастаноўкі — В. Раеўскі.**

**Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы. 30 кастрычніка 1989 года.**

«Пра нябожчыка — ці нічога, ці добра». Чатыры жанчыны на сцэне не згадваюць старажытную мудрасць. Аднак трагедыя смерці яшчэ не аддалілася ва ўсёй сваёй велічы, таму пра іхняга сына, мужа і каханка можна наслухацца... самага добрага, дый, натуральна, не зусім прызначанага для вушэй шматлікіх слухачоў... калі б спектаклі слухалі — і толькі.

Матухна (Т. Аляксеева), першая жонка Хана (Г. Талкачова), другая жонка Ева (Т. Нікалаева), каханка Роза (Т. Качаткова), па сутнасці, відаць, кабеты няшчасныя, адзінокія, спакутаваныя. Выслухваць іхнія споведзі і абразы цяжка, хоць «спавяпальна-абражальны» рэалізм на сцэне раз-пораз перарываецца ноткамі дэтэктыву: Ева чамусьці вырашыла, што муж не з-за няшчаснага выпадку сканаў, а скончыў самагубствам. Таму з пераменным поспехам вядзе следства.

Гісторыя апавядаецца... вядома, акурат да фіналу. У фінале Матухна скажа, што яны — усе ўчатырох — яшчэ будуць жыць, але сваім жыццём будуць няўмольна набліжаць смерць. (І ў гэтай чарзе яна — першая). Выснова хоць і сумная, ды не новая, настолькі не новая, што паспела зрабіцца агульным месцам у шэрагу адвечных чалавечых высноў з уласнага існавання. Такім самым агульным месцам у шэрагу адвечных папрокаў купалаўскім акцёрам паспелі зрабіцца дакоры ў кепскім веданні беларускае мовы, якая (за выключэннем, бадай, мовы Т. Качатковай) па-ранейшаму рэжа слых. Прыкра слухаць такое. Сумна глядзець на такое...

Ёсць, праўда, яшчэ варыянт. Паколькі пра нябожчыка толькі размоў, ці не варта было б, скажам, іх колькасць перавесці ў якасць? Вылучыць другі план з расповяду, выбудаваць нейкае іншае жыццё, што адбывалася б паралельна сцэнічнаму ў глядацкім уяўленні, стварыць-накрэсліць яшчэ адзін — пяты вобраз (тым болей, што ягоны голас «жыўцом» гучыць праз фанаграму)? Каб і нам, запрошаным, даць магчымасць не адно выслухваць тых, хто любіў, але ўявіць, каго яны любілі. Дзеля гэтага, магчыма, рэжысёру давядзецца не так добрасумленна наследаваць літары драматурга; актрысам давядзецца па-іншаму падаваць пачуцці гераінь, каб ні лямант, ні істэрыка, як і перабольшаны смутак, як і зацятая жалоба — не нашкодзілі, не парушылі, не сапсавалі крохкіх, далікатных тэатральных дачыненняў...

Пакуль жа актрысы, так бы мовіць, асуджаны на бяздзеянне. Няма атмасферы на сцэне — няма чаму «авалодваць» залаю і адпаведным чынам наструльваць яе. Няма хоць якога інтрыгуючага сэнсу ў гутарках-расповядах выпадковае суполкі на сцэне («дэтэктыўныя» ноткі настолькі закцэнтаваныя, што міжволі выдаюць на штучнасць) — няма чаму развіваць і рухаць падзеі. Млява, хоць і гучна, існуюць гераіні. Тым акцёрскім існаваннем, якое працяглы час быццам бы «належала» тэатру перажывання ў просталінейным яго разуменні. Усе ж фізічныя дзеянні выканальніц зведзены да снаўдання сюды-туды па сцэнічнай пляцоўцы. Праход справа налева... праход злева направа... за кулісы... назад... ізноў за кулісы... Няўжо так іграецца знерваванасць гераінь? Здаецца, надараюцца моманты, калі можна гранічна наблізіцца да побытавых рэалій: Матухна вяжа шаль, п'е супакаяльныя кроплі, Хана інтэлігентна жлукціць каньяк, усе разам сядаюць за каву, — ды дробныя дэталькі «сапраўднасці» толькі падкрэсліваюць бездапаможнасць тэатральнага існавання і ніяк не хочуць складацца ў «жыццё чалавечага духу». Бо сабраліся ж кабеты, натуральна, не каву каштаваць...

...А я пайшла з тэатра ў прасвятленні ад шчымячай рацыі старога, як свет: пра памерлых — ці добра, ці нічога.

Жанна ЛАШКЕВІЧ.

НАПЯРЭДАДНІ ПАДЗЕІ

# ЗАПРАШАЕ ФЕСТЫВАЛЬ

**20 лістапада пачынаецца ўсесаюзнае свята мастацтваў «Беларуская музычная восень».**

Па традыцыі (а гэта ўжо шаснаццаты фестываль) у яго праграмах — творчыя дасягненні майстроў мастацтваў і маладых артыстычных сіл народаў розных саюзных рэспублік: Літвы, Азербайджана, Расіі, Грузіі, Украіны... Па традыцыі лістападаўская музычная дэкада прынясе свежыя ўражанні жыхарам больш ці менш аддаленых ад цэнтра мястэчак і паселішчаў: Коласава, Чэрвеня, Чавусаў, Шклова, Клічава, Зэльвы, Верцялішак, Жабінкі...

Па традыцыі актыўнымі ўдзельнікамі «Беларускай музычнай восені» будуць калектывы і салісты філармоній і музычных тэатраў нашай рэспублікі: Акадэмічны сімфанічны аркестр БССР, гродзенскі ансамбль танца «Белыя росы», калектыў жыновічаўцаў, «Свята», «Кантабіле», «Харошкі»; Г. Забара, С. Данілюк, Н. Гайда, І. Алоўнікаў...

Усялякі фестываль — справа турботная для ягоных арганізатараў. Але сёлета — і гэта ўжо насуперак ранейшым традыцыям — яго падрыхтоўка і правядзенне адбываюцца ў надзвычай складаных умовах. Ламаецца шматгадовы ўклад гастрольна-канцэртнага жыцця, утварылася мноства камерцыйных арганізацый па наладжванні канцэртаў (толькі ў Мінску іх колькасць сягае ці не да паўсотні). І ўсе прыярытэтныя пазіцыі заваёўвае масавая эстрадная культура.

Ва ўмовах крытычнага зніжэння ўзроўню эстэтычных, духоўных патрэб нашага грамадства, ва ўмовах рэзкага пагаршэння фінансавага становішча філармоній, якія перастае ўжо «карміць» эстрада, але пакуль не ўратоўвае ад пагібелі і дзяржава, — у такіх неспрыяльных умовах усё ж нараджаецца свята. Менавіта свята. Гляньце, хто ў госці сёлета да нас! Піяніст М. Пятроў, той самы, якога так нечакана прадставіў шырокаму колу сваіх чытачоў «Огонёк». Дзяржаўны камерны аркестр СССР пад кіраўніцтвам В. Траццякова. Хор імя М. Пятніцкага, Каўнаскі дзяржаўны камерны хор, Кіеўскі хор імя Б. Ляташынскага. Малады «Вівальдзі-аркестр» пад кіраўніцтвам С. Бязроднай...

Словам, «Беларуская музычная восень» па-ранейшаму ў нашым календары і, мяркуючы па афішах, будзе выглядаць досыць гожа. Але пры адной акалічнасці: калі і публіка акажацца на ўзроўні, праявіць сваю дасведчанасць і зацікаўленасць, не абміне фестывальных залаў і паспрыяе стварэнню свята на канцэртах.

С. ВЕТКА.

## З паэтычнай пошты

**Ала ЛАПОШЫЧ**

### Сучасная прытеўка

Няма мыла, паста — дзе ты?
Віно выпілі да дна...
Лыжка трэба мне к абеду.
Для чаго пасля яна?

Дэфіцыт на ўсё, што цэніцца,
а не толькі на шпінат.
Жыццё меліцца ды пеніцца.
Бы жыццё сляпых манад.

### У застой і цяпер

Той, хто не выбраў выгаду,
заставаўся без спраў.
Яго цяснілі да выхаду...
Ён здаваўся, здаваў.
А сеўшыя ў цёплае крэсла,
маліліся на свой лёс.
Іх крэсла высока узнесла.
Высока іх лёс узнёс.

Ды лёс не заўсёды лагодны.
Прыйшла другая пара:
не хоча слуга народны
прызнаць гаспадара...

**Змітрок МАРОЗАЎ**

●

Не разумею век,
Мяне не разумеюць...
Ці ж я не чалавек?
А, можа, жыць не ўмею?
Не ўмею фліртаваць
Са славаю наіўнай,
Сумленнем гандляваць
Для выгады хвіліннай,
Хавацца за спіну
Чужую, як за бога,
Пачаўшы баразну,
Не дааараць аблогу,
Да шчасця каляёй
Праторанаю ехаць,
З халоднаю душой
Спяваць камусь на ўцеху,
І за крысо лавіць
Свавольніцу-удачу...
Відаць, не ўмею жыць...
А можна жыць іначай?

### «Баец» за перабудову

Моцны заднім розумам,
Ён былое б'е,
Роздуму цвярозага
Слову не стае.
Ды жанглюе бедамі
Да прамоў мастак:
«Што рабіць — не ведаю,
А жывем не так!..»
У часы наступныя
Пнецца, аж пішчыць,
Хоць на месцы тупае
І назад глядзіць.

●

Час патрабуе званароў,
За праўду шчырых змагароў,
Ды зноў (які ўжо раз!) чутны
Навокал толькі крыкуны.
«Мы за народ!» — крычаць
яны...
Народ, вядома, не дурны —
Сам зразумее: дзе мана,
Дзе праўда — грош якой цана.

●

Не бярыце грыбоў —
радыяцыя!
Не касіце лугоў —
радыяцыя!
Не збірайце суніц —
радыяцыя!
І не піце з крыніц —
радыяцыя!
Піце «зелле» часцей —
радыяцыя!
Не раджайце дзяцей —
радыяцыя!
Род?..
Радзіма?..
Народ?..
Нацыя?..
Радыяцыя!

●

Пакуль Паэт не нарадзіўся,—
І Дэспат дрэмле да пары...
Ды вось абсяг памаладзіўся
Святлом прарочае зары.
І прыпыніла бег свой Лета,
І загучала праз вякі
Па ўсёй зямлі імя Паэта,
Звіняць чароўныя радкі.
Паэту хораша пяецца
Аб волі, шчасці і вясне,
Пакуль наш Дэспат не
прачнецца
І чорны суд не распачне.

### Сябрам

Мы зноў спрачаемся да зморы,
Хоць нам пазнаць даўно
пара —
Чаму штораз патрэбна гора,
Каб зразумець цану дабра.
На гераічныя магілы
Кладзецца немач набыцця...
А мы пра цукар і пра мыла,
Нібыта ў цукры — соль жыцця.

### Роздум сейбіта

Адкуль, зямля, бярэш ты сілы,
Каб іх насенню перадаць?..
Вунь каласы пад небасхілам
Аб гэтым велічна шумяць.
Ды мне да самае магілы
Відаць, не дадзена пазнаць:
Адкуль, зямля, бярэш ты сілы,
Каб іх насенню перадаць?

●

Згубіўшы часу адчуванне,
Бягу наперад ці назад?..
І кожны май, нібы вяртанне
Душы ў ззялелы лістапад.
Хоць жывіць лепшыя надзеі
Бель урачыстая садоў,
Я чую новыя завеі
Ў разбойным свісце салаўёў.

НАШЫ ГОСЦІ

# ПРАЦЯГ ТВОРЧАЙ ЭСТАФЕТЫ

Вядомы балгарскі паэт, выдатны перакладчык беларускай літаратуры Найдзен Вылчаў неяк расказаў, як ён у 1961 годзе быў накіраваны Саюзам балгарскіх пісьменнікаў на Беларусь з мэтай вывучэння нашай мовы і літаратуры. Тая паездка ды і іншыя далі багаты творчы плён. З яго лёгкай рукі да перакладу беларускай літаратуры далучыліся потым Андрэй Германаў, Іван Давыдкаў, Марка Ганчаў. Пазней прыйшлі Сімяон Уладзіміраў, Пенка Кынева, Іван Дойчынаў, многа іншых перакладчыкаў. І вось да нас прыехала прадстаўніца новага пакалення балгарскіх літаратараў — маладая паэтэса Зоя Васілева. Прыехала на тры месяцы з той самай мэтай — вывучаць беларускую мову і літаратуру.

Зоя Васілева нарадзілася ў 1955 годзе ў Сафіі. Скончыла Сафійскі дзяржаўны універсітэт, факультэт балгарскай філалогіі. У друку выступае з 1969 года. Аўтар зборніка паэзіі «Калі я надумаю палюбіць вас» (1988), які выйшаў у выдавецтве «Народна младеж».

Перакладчыца мела гутарку са старшынёй праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Максімам Танкам і першым сакратаром праўлення Нілам Гілевічам. Яна цікавілася нашай сучаснай літаратурай, удзелам пісьменнікаў у перабудове, жыццём рэспублікі.

Пажадаем жа ёй добрага плёну на ніве перакладчыцкай дзейнасці, нашага творчага супрацоўніцтва.

# БЕЛАРУСКАЯ ПАЭЗІЯ ПА-ТУРЭЦКУ

**Гэтымі днямі госцем СП Беларусі быў турэцкі пісьменнік Ірфан Унвер Насрэтцінаглы. Нарадзіўся ён у г. Аф'ён - Карахцар у 1937 г. Скончыў Анкарскі універсітэт, аддзяленне турэцкай мовы і літаратуры (1960). Аўтар трыццаці дзевяці кніг, частка якіх прысвечана жыццю і культуры савецкіх народаў. Сярод іх — «Валгаград учора, сёння», «Рэспубліка Азербайджан», «Класік туркменскай паэзіі Махтумкулі» і інш. І. У. Насрэтцінаглы склаў анталогіі азербайджанскай, узбекскай паэзіі, паэзіі казахстанскіх уйгураў. На гэты раз мае намер выдаць анталогію беларускай паэзіі. У Мінск ён і прыехаў з мэтай сабраць матэрыял для анталогіі. Госць меў гутарку са старшынёй праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Максімам Танкам, сакратаром праўлення Васілём Зуёнкам, наведаў літаратурныя музеі Янкі Купалы і Якуба Коласа, Вязынку, мемарыяльны комплекс «Хатынь».**

**На развітанне І. У. Насрэтцінаглы сказаў:**

**— Я бываў у многіх савецкіх рэспубліках, наведаў шмат краін. І таму магу параўноўваць. Мне здаецца, што ў сацыяльна-эканамічных адносінах Беларусь апярэджвае многія саюзныя рэспублікі. Пра гэта сведчыць узровень культуры народа, людзей, з якімі я сустракаўся. У вашых людзей убачыў многа сучасных еўрапейскіх рыс. Адчуваю, што творчую інтэлігенцыю вельмі хвалюе пытанне захавання і адраджэння роднай мовы і культуры. Хоць стабільнымі сувязямі паміж Турцыяй і Беларуссю мы не можам пахваліцца, але тут я хачу сказаць адзін факт. У Анкары з 20-х гадоў існуе рэстаран «Карпіч». Заснаваў яго беларус, там была беларуская кухня. Гэта адзіны рэстаран у Анкары, які любіў наведваць правадыр турэцкай рэвалюцыі Кемаль Ататюрк. Ён нават меў там свой столік. Карпіч памёр, цяпер у рэстаране другія гаспадары, туркі, але назву рэстарана яны захавалі.**

**З Беларусі я вязу зборнікі паэзіі, анталогіі. Я рады, што вы далі мне магчымасць пазнаёміцца з жыццём і дзейнасцю двух цудоўных паэтаў — Янкі Купалы і Якуба Коласа. Яны не толькі паэты, яны — духоўныя настаўнікі народа. Калі мне ўдасца гэта адлюстраваць у анталогіі, то іх паэзія стане сапраўдным здабыткам турэцкага чытача, — падкрэсліў У. І. Насрэтцінаглы.**

А. ГАРДЗІЦКІ.

# БЭРЫ, КЮРЫ, ДЗЕЦІ...

**Здаецца, толькі сёлета грамадскасць Беларусі пачала ўсведамляць чарнобыльскую катастрофу як нацыянальную трагедыю. Гэты год быў адзначаны маштабнымі грамадскімі акцыямі, а ў беларускім і ўсесаюзным друку з'явіліся публікацыі, якія прыадчынялі заслону сакрэтнасці, выкрываючы злачынную бяздзейнасць і абыякавасць да лёсу народа тых, каго службовы статус і адказныя пасады, здавалася б, абавязвалі да рашучых дзеянняў па выратаванні людзей.**

**Нядаўняя сесія Вярхоўнага Савета БССР прыняла «Дзяржаўную праграму па ліквідацыі ў Беларускай ССР вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС на 1990—1995 гг.». Усё, што датычыць праблемы Чарнобыля, не церпіць адкладу. Аднак і ў гэтай справе ёсць пытанне першачарговае. Гэта — дзеці ў зоне «жорсткага кантролю». Таму той невялікі, але вельмі каштоўны вопыт грамадскіх арганізацый па ратаванні будучыні нацыі (гэта без перабольшання) патрабуе пільнай увагі і глыбокага асэнсавання.**

**Госць рэдакцыі — дацэнт БДУ, кіраўнік камітэта БНФ «Дзеці Чарнобыля» Генадзь ГРУШАВЫ. Яго імя вядома па шэрагу публікацый у рэспубліканскім друку ў сувязі з «Чарнобыльскім шляхам», дзейнасцю прыгаданага камітэта, а цяпер яшчэ і рэспубліканскага каардынацыйнага савета грамадскасці «Чарнобыль і дзеці».**



**— Генадзь Уладзіміравіч, камітэт «Дзеці Чарнобыля» быў арганізаваны ў той час, калі пра іншыя структурныя ўтварэнні пры БНФ яшчэ нават размовы не было. Чаму БНФ, толькі-толькі стаўшы на ногі, быў вымушаны скіраваць свае сілы на справу, якую ўвогуле павінны былі б рабіць прафсаюзы ці адпаведныя міністэрствы і ведамствы?**

— Павінны — так. Але ці рабілі? Дзяржаўная праграма ліквідацыі вынікаў катастрофы на Беларусі прынята толькі на чацвёртым годзе пасля Чарнобыля. А чаму тры гады маўчалі? Не ведалі? Для спецыялістаў (а такія, безумоўна, ёсць у штаце міністэрстваў аховы здароўя, атамнай энергетыкі, у рэспубліканскім штабе грамадзянскай абароны) усё было зразумела ўжо ў першыя дні пасля аварыі. Ды сродкі масавай інфармацыі вялі барацьбу з «радыёфобіяй» сярод насельніцтва, замест таго, каб наладзіць элементарны «лікбез» па радыяцыйнай бяспецы.

Камітэт «Дзеці Чарнобыля» створаны сёлета ў маі, адразу пасля ўстаноўчага з'езда БНФ і ў адпаведнасці з праграмнымі дакументамі, прынятымі на з'ездзе. Чарнобыль паставіў пад пагрозу само існаванне цэлага народа. Найбольш пакутуюць дзеці. Яны круглы год знаходзяцца на забруджанай тэрыторыі, хварэюць, пазбаўлены нармальных умоў жыцця. Ужо стала звычайнай з'ява, што ў дзяцей носам ідзе кроў. Што ж датычыць пуцёвак, пра якія на афіцыйным узроўні было столькі размоў, дык гэта, як мы высветлілі, звычайная ліпа. Усё разлічана толькі на супакаенне грамадства, на прапагандысцкі эфект. Бо дзецям трэба санаторнае лячэнне, а іх у піянерскія лагеры накіроўваюць (і нават гэтых пуцёвак яўна недастаткова). Атрымлівалася так, што з трох дзяцей, якім пуцёўкі неабходныя, атрымліваў яе толькі адзін. Дзяцей трэба ратаваць зараз. Ужо сёння многія з іх інваліды. Праца камітэта «Дзеці Чарнобыля» — гэта не філантропія. Тут пытанне: быць ці не быць?

**— З якімі цяжкасцямі давялося сутыкнуцца камітэту ў сваёй рабоце?**

— Афіцыйныя ўлады ў лепшым выпадку спрабуюць нас не заўважаць, але часцей робяць усё магчымае, каб блакіраваць усе акцыі БНФ, незалежна ад іх характару, зместу. Менавіта з гэтым мы сутыкнуліся ўжо на самым пачатку дзейнасці камітэта. Ёсць справы, якія зрабіць на адным энтузіязме немагчыма. Улады не ішлі з намі на ніякія кантакты, а вопыту ў нас напачатку не хапала. Адсюль былі пэўныя збоі.

Мы найперш меркавалі арганізаваць на летні перыяд дадатковае забеспячэнне дзяцей пуцёўкамі ў аздараўленчыя ўстановы Прыбалтыкі. Звязаліся з Эстонскім народным фронтам. Тыя змясцілі аб'явы ў сваім друку. Да нас, у камітэт, сталі прыходзіць лісты з Таліна, Пярну, іншых мясцін з прапановамі прыняць беларускіх дзяцей. Але, каб рэалізаваць гэтыя прапановы, трэба была дапамога афіцыйных устаноў Беларусі, у першую чаргу — прафсаюзаў. Бо каб аплаціць дарогу ў Эстонію і самі пуцёўкі, трэба сродкі, якіх народны фронт, зразумела, не меў. Прыгадаем, што рахунак БНФ, адкрыты на імя Пятры Садоўскага (на які людзі дасылалі грошы), быў ліквідаваны без усялякіх тлумачэнняў... Адным словам, Белсаўпрофу, відаць, не даспадобы прыйшлося тое, што ініцыятыва зыходзіць ад народнага фронту. Кантакту не атрымалася. Такім чынам, гэта наша першая акцыя не мела поспеху.

**— Ці можна і ці варта, на вашу думку, вырашаць «дзіцячую» праблему ў адрыве ад «агульначарнобыльскай»? Ці не будзе гэта распыленнем сіл?**

— Мы ставім пытанне шырэй — аб адсяленні насельніцтва з усіх мясцін, дзе радыяцыя пагражае здароўю. І вырашаць «дзіцячую» праблему імкнёмся ў гэтым кантэксце.

**— У ліпені актывісты камітэта «Дзеці Чарнобыля» наведалі заражаныя раёны Магілёўшчыны, правялі доследы і апытанне насельніцтва. Потым яшчэ былі паездкі, зноў на Магілёўшчыну, Гомельшчыну, рабіліся аналізы глебы з Брэсцкай вобласці. Вашы навуковыя даследаванні праясняюць радыяцыйную і сацыяльна-псіхалагічную сітуацыю ў «зоне». А ці ёсць практычныя вынікі?**

— Калі мы пасля экспедыцыі на Магілёўшчыну звярнуліся ў Белсаўпроф (да М. Роша) па пытанні пуцёвак, з намі гаварылі ўжо іншым тонам. Бо адчувалі, што ў нас ёсць аргументы, якія ігнараваць цяжка. Была надзея, што хаця б у гэтай галіне намецілася супрацоўніцтва паміж БНФ і прафсаюзамі. Але выступленне М. Роша ў «Советской Белоруссии» за 22 кастрычніка («Как отдыхают дети из «зоны») ставіць пад сумненне выказаны ім тады ад імя Белсаўпрофа намер працаваць дзеля гуманнай мэты.

**— Генадзь Уладзіміравіч, у вашых інтэрв'ю «Звяздзе» за 5 кастрычніка і «Чырвонай змене» за 24-га гаварылася, у прыватнасці, аб перасяленні Слаўгарадскай школы-інтэрната...**

— Так. Пра гэта сапраўды варта пагаварыць больш падрабязна. Прадстаўнікі камітэта «Дзеці Чарнобыля» наведалі гэтую школу-інтэрнат у канцы лета. У будынку ішоў капітальны рамонт, і будаўнікі яўна не паспявалі закончыць справу да пачатку навучальнага года. З гонарам паказваючы чыстыя, ярка расфарбаваныя, любоўна аформленыя пакоі і залы, ужо гатовыя прыняць дзяцей, Пётр Ільіч Дадыка, дырэктар інтэрната, не хаваў трывогі і разгубленасці. Якое жыццё-быццё ва ўмовах капрамонту, ведае кожны. Але не гэта было асноўным у нашых размовах з «галоўным татам» больш чым сотні дзяцей, якія па волі нешчаслівага лёсу сабраліся разам у гэтым прыгожым кутку Магілёўшчыны. Нават пераважыўшы «на будпляцоўцы» цяжкія месяцы, ці змогуць яны радавацца потым свайму абноўленаму дому? На стале ў дырэктара ляжаў дакумент, раўнасільны прысуду: у ім паведамлялася, што радыяцыя на тэрыторыі школы вышэй за 15 кюры на квадратны кіламетр. Зона жорсткага кантролю, дзе пражыванне дзяцей недапушчальна. Ведалі аб гэтым раней, калі задумвалі рамонт? Ведалі, ды толькі не было ўпэўненасці, што адсяленне адбудзецца. Занадта аптымістычнымі былі запэўніванні, якія давалі адказныя кіраўнікі. Занадта доўга хавалі праўду ад людзей. Жаданне не дапусціць таго, каб і чацвёрты навучальны год пасля аварыі дзеці пачалі на смяротна заражанай зямлі, прывяло нас, актывістаў камітэта «Дзеці Чарнобыля», у Слаўгарад. Не валодаючы правамі і магчымасцямі для пераводу школы ў другі раён рэспублікі, мы задумалі (пакуль гэта пытанне будзе вырашана на дзяржаўным узроўні) вывезці ўвесь калектыў, уключаючы педагогаў, медработнікаў і тэхнічны персанал, на адну з добраўпарадкаваных баз адпачынку, якіх так многа пад Мінскам. Патрабаванні для адбору былі строгія: «чарнобыльцам» павінны забяспечвацца ўмовы для паўнацэннага жыцця, вучобы, аздараўлення, адпачынку, фізічнага і духоўнага развіцця. Праўда, і тых, хто хацеў бы прадаставіць жыллё пацярпеўшым дзецям, амаль не знайшлося.

У каторы раз давялося з горыччу канстатаваць, што дабрачыннасць, міласэрнасць, гуманнасць часцей за ўсё праяўляюцца ў выглядзе гучных пачынанняў і арганізуемых «зверху» кампаній, а не ў гатоўнасці памагаць тым, хто мае вострую патрэбу ў гэтай дапамозе. Аднак, як кажуць, свет усё ж не без добрых людзей. Знайшоўся гасцінны «дах» для слаўгарадскіх дзетак і іх настаўнікаў. Але і гэты «дах» трэба было аплаціць. Трэба было купляць пуцёўкі. Патрэбны былі грошы «на дабрачыннасць». Цяпер добраахвотныя ахвяраванні — не рэдкасць. Ёсць і «чарнобыльскія рахункі». Імі забяспечваюць будаўнічыя, дэзактывацыйныя і іншыя работы. Імі падмацоўваюцца вялікія дзяржаўныя планы. А вось канкрэтна цяпер дапамагчы сотні-другой дзяцей, незапланавана раскашэліцца на добрую справу— тут у «вялікіх фондаў» адразу ўзнікаюць складанасці. Мы спяшаліся. Да верасня ў Слаўгарад вярталіся з піянерлагера дзеці. І тут вельмі дарэчы прыйшлася прапанова Саюза кінематаграфістаў СССР пералічыць буйную суму грошай для непасрэднай дапамогі пацярпеўшым ад Чарнобыля людзям. Пры актыўным удзеле праўлення Саюза беларускіх кінематаграфістаў на гэтыя сродкі былі закуплены пуцёўкі на базу адпачынку НВА «Цэнтр» (генеральны дырэктар В. І. Шаплыка), тэрмінам на два месяцы. З 22 верасня слаўгарадскія дзеці знаходзяцца пад Мінскам на базе адпачынку «Світанак». Да канца лістапада павінна быць прынята рашэнне аб канчатковым перасяленні школы-інтэрната на новае, пастаяннае месца.

**— У таго, хто чытаў у «Звяздзе» за 5 кастрычніка матэрыял «Званы міласэрнасці» аб стварэнні рэспубліканскага каардынацыйнага савета «Чарнобыль і дзеці», магло ўзнікнуць уяўленне, нібыта толькі дзякуючы Беларускаму аддзяленню Савецкага дзіцячага фонду стала вядома праўда аб беларускіх дзецях — ахвярах Чарнобыля...**

— Сапраўды, у той публікацыі сцвярджаецца, што ўжо толькі ўслед за Дзіцячым фондам «да справы пачалі актыўна падключацца розныя грамадскія арганізацыі, творчыя саюзы, неафармальныя аб'яднанні». Потым Дзіцячы фонд нібыта вырашыў аб'яднаць «усіх сваіх добраахвотных памочнікаў» — вось так і ўтварыўся каардынацыйны савет грамадскасці для дапамогі пакутуючым дзецям.

Прыгадваючы ў «Званах міласэрнасці» камітэт «Дзеці Чарнобыля», які ўваходзіць у каардынацыйны савет, аўтары публікацыі чамусьці забылі ўдакладніць, што гэты камітэт створаны пры Беларускім народным фронце і што ўсё зробленае камітэтам рабілася ў адпаведнасці з праграмай БНФ, а не па закліку, а тым больш не пад эгідай Дзіцячага фонду (і, зразумела, без усялякай дапамогі з боку апошняга). Дарэчы, ініцыятыва ўтварэння грамадскага каардынацыйнага савета пры Дзіцячым фондзе зыходзіла ад нашага камітэта «Дзеці Чарнобыля».

Мы падзяляем гуманістычны кірунак дзейнасці Дзіцячага фонду, тым болей, што зараз галоўнае — агульнымі намаганнямі адолець бяду. Толькі надта ж кідаецца ў вочы тэндэнцыя замоўчвання рэальных спраў нашага руху. А калі гэта не атрымліваецца, дык зробленае намі пераводзіцца на рахунак афіцыйных арганізацый і ўстаноў.

**— Генадзь Уладзіміравіч, вы адзін з арганізатараў «Чарнобыльскага шляху». Сярод водгукаў у прэсе на гэтую акцыю БНФ быў і такі—«Известия» за 18 кастрычніка паведамілі аб судзе над Ю. Хадыкам...**

— Акрамя Ю. Хадыкі, да судовай адказнасці былі прыцягнуты Зянон Пазняк і я. Увогуле ўсё гэта рабілася па адной схеме. Так што ў той «известинской» карэспандэнцыі можна толькі мяняць прозвішчы. Тыя трыста рублёў, якія суд прызначыў мне выплаціць у якасці штрафу, я папрасіў перавесці на рахунак 707 «Дзеці Чарнобыля». Але мая просьба была праігнаравана.

**— Аднак вернемся да спраў камітэта «Дзеці Чарнобыля». Вядома, што пад час візіту на Беларусь хрысціянскіх паломнікаў з ФРГ з кіраўніцтвам дэлегацыі сустракаліся прадстаўнікі камітэта. Пра што ішла гаворка?**

— Дзяржава дагэтуль не можа знайсці прыблізна 300 тысяч рублёў, каб набыць для Беларусі такі неабходны сёння мабільны дыягнастычны цэнтр, які можна было б накіраваць у заражаныя раёны. Мы звярнуліся да хрысціянскіх паломнікаў з просьбай сабраць грошы і купіць такі цэнтр там, на Захадзе, а потым даставіць яго на Беларусь у якасці дару.

**— Чаму менавіта саму машыну, а не валюту, на якую наша дзяржава магла б яе набыць?**

— Мы не маем упэўненасці, што тыя грошы будуць скарыстаны па прызначэнні. Спашлюся на цэнтральную прэсу. «Медицинская газета» пісала пра тое, што унікальнае абсталяванне, якое накіроўвалася з Заходняй Еўропы у Башкірыю, у медыцынскі цэнтр, спецыялізаваны па лекаванні апёкаў ва Уфе (пасля страшэннай катастрофы, што здарылася на чыгунцы ў выніку аварыі газаправода), асядала ў Маскве. А ў Башкірыю замест яго накіроўвалася савецкае абсталяванне, часта раскамплектаванае, непрыгоднае да эксплуатацыі. Нехта ў сталіцы вырашыў, што замнога гонару для «правінцыі» мець тое, што і ў Маскве дэфіцыт...

**— Ваша стаўленне да Дзяржаўнай праграмы ліквідацыі на Беларусі вынікаў чарнобыльскай аварыі?**

— Беларускі народны фронт мае шэраг прапаноў па дапаўненні гэтай праграмы. Варта было б вылучыць у праграме спецыяльны раздзел «Ахова дзяцінства і мацярынства» і вылучыць у асобную катэгорыю шматдзетныя сем'і, сем'і з хворымі дзецьмі, інвалідамі, з дзецьмі ва ўзросце да 7 гадоў, а таксама дзяцей — выхаванцаў дамоў дзіцяці, дзіцячых дамоў і школ-інтэрнатаў. Мы лічым, што ў рамках першага этапу адсялення (1989—1990) тыя, хто ўваходзіць у гэтую катэгорыю, павінны быць адселены з тэрыторый, дзе радыяцыйнае забруджанне вышэй за 15 кюры на квадратны кіламетр. На другім этапе (1990—1991) трэба зрабіць тое самае (з улікам згоды жыхароў) на тэрыторыі з узроўнем забруджання 5 кюры на квадратны кіламетр. А потым трэба звярнуць увагу на тых, хто жыве ў зоне, дзе 2 кюры на кіламетр. Было б добра, каб ужо з 1991 года гэтыя людзі мелі права і магчымасць перасяліцца.

Другая катэгорыя — сем'і з дзецьмі ад 7 да 16 гадоў, якія не трапілі ў вышэйназваную катэгорыю і якія жывуць у зонах жорсткага кантролю (вышэй за 15 кюры). Лічым, што яны павінны мець права на перасяленне з поўнай кампенсацыяй (у 1990—91 гг.), а тым, хто жыве ў зонах пастаяннага кантролю (вышэй за 5 кюры)— частковай (за пабудовы) у перыяд з 1991 па 1992 г. З зон з узроўнем забруджання вышэй за 5 кюры трэба вывесці ўсе радзільныя дамы і аддзяленні. Трэба даць магчымасць жанчынам у зонах пастаяннага кантролю з моманту ўстанаўлення цяжарнасці быць у спецыяльна створаных стацыянарах пры радзільных дамах да нараджэння дзіцяці і ў наступныя 4 месяцы на поўным дзяржаўным забеспячэнні.

Гутарку вёў **П. ВАСІЛЕЎСКІ.**

**Пытанні вяртання старых назваў гарадам і вуліцам, якія ў свой час па «жаданні народа» былі перайменаваны, абмяркоўваліся на Усесаюзнай навукова-практычнай канферэнцыі па тапаніміі, якая адбылася ў Маскве. На ёй прызнана мэтазгодным вярнуць старажытным расійскім гарадам ранейшыя гістарычныя імёны. На карце краіны зноў з'явяцца Акмолінск, Вятка, Казлоў, Луганск, Ніжні Ноўгарад, Самара, Цвер, ужо вернуты назвы Набярэжным Чаўнам, Іжэўску, Рыбінску.**

**Такая ж «хвароба» масавага перайменавання гарадоў і вуліц не абышла і Беларусь, пра што слушна пісаў на старонках «ЛіМа» прафесар Л. Лыч. Праблемы тапаніміі даўно хвалююць нашу грамадскасць. Пра гэта разважаюць і аўтары лістоў, дасланых у рэдакцыю з Гомеля і Мінска.**

# У назвах — наша гісторыя

У тапанімічных назвах населеных пунктаў Беларусі выяўляюцца шматлікія лексічныя пласты, якія нясуць розную інфармацыю. Значная частка з іх захоўвае вялікую колькасць тапонімаў, якія характарызуюць геаграфічныя аб'екты, створаныя чалавекам. Назвы каштоўныя для навукі і культуры з пункту гледжання ўстанаўлення іх гістарычных і тэрытарыяльных матывацый. Цікавую і багатую гісторыю змяшчаюць назвы населеных пунктаў, у якіх захоўваецца гістарычная памяць народа, увекавечаная геаграфічнымі аб'ектамі. У гэтым плане, напрыклад, вялікую цікавасць уяўляе назва горада Прапойск, раённага цэнтра Магілёўскай вобласці, які ў старажытнарускіх пісьмовых помніках упершыню ўпамінаецца ў 1136 г. пад назвамі Прупой, Пропошеск, Пропорьск, Пропостьск, Пропосек, Прополъск, Пропойск у складзе Смаленскага княства. Прапойскам ён называўся да 1945 г., затым быў перайменаваны ў горад Слаўгарад. На жаль, забыліся тады пра тое, што былая назва гэтага горада захоўвае цікавыя звесткі пра яго паходжанне, звязаныя з назвай рэчкі Проня, у вусці якой быў заснаваны гэты горад.

Вялікай вядомасцю яшчэ з часоў грамадзянскай вайны карысталася вёска Рудабелка, у якой у часы нямецкай акупацыі Беларусі (1918) і польскай (1919—1920) дзейнічала Савецкая ўлада. Пасля вызвалення ад буржуазнай Польшчы Рудабельская воласць была перайменавана ў Акцябрскую. З 1939 г. Рудабелка стала цэнтрам Акцябрскага раёна, пасля гарадскім пасёлкам Акцябрскі Гомельскай вобласці. Аднак апошняя назва, як бы некаторыя ні хацелі, ніяк не прыжылася ў гутарковай мове яго жыхароў, якія па-ранейшаму лічаць, што яны рудабельцы.

У старабеларускіх пісьмовых помніках упаміналіся геаграфічныя назвы, у аснове якіх — канкрэтныя імёны, якія пакінулі прыкметны след у нашай айчыннай гісторыі. Скажам, па імені татарскага князя Койдана быў названы ў свой час населены пункт Койданава, які стаў раённым цэнтрам Мінскай вобласці. Гэта заканамерная з'ява, абумоўленая пасяленнем у Беларусі і Літве яшчэ ў XIV—XV стст. татар, якія жывуць тут да апошняга часу. З іменем гэтага князя звязана і ўзнікненне новага слова ў беларускай мове — кайданы, якое ў дарэвалюцыйнай Расіі ўжывалася ў значэнні «ланцугі». У 1932 г. Койданава перайменавалі ў Дзяржынск.

Па імені нейкай заможнай асобы было названа пасяленне Каралін, вядомае ў Мазырскім павеце Вялікага княства Літоўскага з XVI ст. З 1924 г. яно стала цэнтрам Каралінскага раёна, а ў 1931 г. было перайменавана ў Ельск, цэнтр Ельскага раёна. Вось так мы непрыкметна і трацім памяць пра людзей, звязаных сваёй дзейнасцю ў той ці іншай меры з нашай зямлёй.

Па традыцыі мясцовасці часта даваліся назвы, звязаныя з працоўнай дзейнасцю чалавека. Так, напрыклад, назву вёсак Дзяругі ў Аршанскім і Сенненскім раёнах Віцебшчыны прыдумала, без сумнення, мясцовае насельніцтва, якое з даўніх часоў займалася традыцыйным ткацтвам — вырабам тоўстай тканіны або пакрывалаў з гэтай тканіны. Аднак у 1964 г. камусьці гэта назва паказалася немілагучнай, таму ў Аршанскім раёне гэту вёску сталі называць Каўровая (?). Няўдалае і перайменне вёскі Дзяругі ў Сенненскім раёне ў вёскую Роднае сяло: быццам бы астатнія сёлы не з'яўляюцца роднымі для іх карэнных жыхароў.

На ўзнікненне назваў многіх населеных пунктаў уплывала іх ландшафтнае размяшчэнне. Так, назву вёсцы Гары вада Рэчыцкага раёна «далі» нафтавыя залежы, якія маглі загарацца, вёска Буй Сенненскага раёна знаходзіцца на высокім адкрытым месцы, даступным ветру, вёска Курганне Буда-Кашалёўскага раёна размешчана на ўзгоркавай мясцовасці. У 1938 г. вёска Буй стала называцца імем Будзённага, а Курганне ў 1964 г. перайменавана ў Дружбічы. Або яшчэ: былая традыцыйная назва вёскі Белы Бераг Чачэрскага раёна заменена на Красны бераг, хоць і размешчана ўздоўж рэчкі Сож з белым, а не чырвоным пясчаным берагам.

Некаторыя назвы беларускіх гарадоў з цягам часу канкрэтызаваліся ў новых умовах і станавіліся словаспалучэннямі. Напрыклад, горад Брэст, вядомы ў старажытных пісьмовых помніках як Берестье, Берестий, на працягу XVII—XIX стст. славіўся як Брэст-Літоўск, а ў 1921—1939 гг. — Брэст-над-Бугам. Такія састаўныя назвы ведаюць не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі, у іх адрозніваліся геаграфічныя прыналежнасці назваў (параўн. Брэст — порт на захадзе Францыі на паўвостраве Брэтань і Брэст-Літоўск або Брэст-над-Бугам — у Беларусі). У гісторыі Брэста, вядомага як Брэст-Літоўск, адлюстраваны гістарычныя падзеі — там быў падпісаны Брэсцкі мір, мірны дагавор паміж Савецкай Расіяй і дзяржавамі германскага блока. У гэтым плане былая назва гэтага горада Брэст-Літоўск захоўвае для гісторыі несумненны інтарэс, бо яна звязана са знамянальнай гістарычнай падзеяй у жыцці і дзейнасці нашай Савецкай Рэспублікі. Раённы цэнтр Брэсцкай вобласці Камянец, заснаваны ў 1276 г., да 1946 г. называўся Камянец-Літоўскі ў адрозненне ад украінскага горада Камянца-Падольскага.

Беларускія мовазнаўцы павінны распрацаваць навукова аргументаваныя правілы напісання геаграфічных назваў паводле ўнутраных законаў развіцця беларускай мовы. Занадта вялікі разнабой існуе ў перадачы іх на пісьме. Чаму мы павінны называць гарады Брэст, Гродна, Навагрудак, калі нашы продкі пісалі іх у поўнагалосных формах, характэрных для ўсіх усходнеславянскіх моў: Берестье, Городень, Городно, Городня, Новогород, Новогородок? У свой час многія беларускамоўныя формы назваў населеных пунктаў былі заменены рускамоўнымі або рускамоўныя назвы сталі пісаць беларускамоўнай транскрыпцыяй, што і прывяло да элементарнай непісьменнасці.

Назвы вёсак, якія знікаюць з твару зямлі, у тым ліку і тых, якія апынуліся ў зоне чарнобыльскай радыяцыі, трэба захаваць для нашай гісторыі як помнікі культуры. Мы павінны пакінуць нашчадкам аднаўленыя тапанімічныя назвы і адназначна вызначыць іх семантыку, якая лягла ў аснову нашых населеных пунктаў. На маю думку, савет па тапаніміцы Беларускага фонду культуры, вучоныя і грамадскасць рэспублікі павінны пачаць работу па стварэнні Чырвонай кнігі гістарычных геаграфічных назваў Беларусі.

**У. АНІЧЭНКА,**
**старшыня Гомельскага абласнога аддзялення Савецкага фонду культуры.**

# Жыў на зямлі мастак

У МАЛЕНЬКАЙ вёсачцы стаяла на ўскрайку маленькая хатка...

Ці даў бог доўгіх гадоў жыцця бабульцы Марылі, яе гаспадыні? А калі жывая, то няўжо яшчэ за абразамі, у светлым пакоі, ляжаць даўнейшыя фотакарткі, зробленыя ў Вільні? І ў хаце напалена, і вышытая «крыжыкамі» саматканая сурвэтка хораша разаслана на канапе, як прыкмета адышоўшага ў нябыт старога часу, і спелыя антонаўкі жаўцеюць на стале ў глінянай місачцы. Няўжо шмат гадоў назад быў вечар, калі мы сядзелі ля вакна, а на прыпечку варылася бульба, і я слухаў людзей, у чыіх сэрцах жыла Памяць.

Дзіўна, але гэта так: Фердынанд Рушчыц для старэнькіх жанчын быў і не панам, уладальнікам маёнтка ў Багданаве, і не мастаком. Што яны, непісьменныя, семнаццацігадовыя, разумелі ў далёкія дваццатыя ў мастацтве? Ведалі толькі, што любіў маляваць.

Ён быў для іх Чалавекам.

Колькі павагі жыло ў словах, колькі радасці палымнела ў вачах, колькі добрай катэгарычнасці ва ўспамінах! Па-студэнцку сумленна яны былі занатаваны, папяровыя аркушы ляглі пасля ў вокладку ад школьнага дзённіка і пятнаццаць гадоў спачывалі на паліцы. Гэта толькі зараз пакрысе мы абуджаем сваю сацыяльную і нацыянальную свядомасць; спяшаючыся, не лічым лішнім спыніцца і нагадаць лёсы і жыцці тых, хто шчыраваў на ніве дзяржаўнасці і роднай культуры. Але ж час няўмольны, сёння ўжо шмат чаго ніколі не спазнаць пра людзей, якія — кожны пакрысе — праслаўлялі Бацькаўшчыну, даносячы з мінуўшчыны звычкі і клопаты тых, хто хадзіў па зямлі крышачку раней за нас.

А ў Багданаве жылі жанчыны, чые спрацаваныя рукі памяталі цёплы поціск далоні мясцовага шляхціца Фердынанда Рушчыца. Дабрэйшага чалавека. Асветніка. Вучня Шышкіна і Куінджы па Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў. Прафесара жывапісу Кракаўскай Акадэміі мастацтваў.

І я паехаў да іх.

## Ліст з Варшавы

Хто вы, пан Рушчыц? З кім сябравалі і чым ганарыліся? У рэшце рэшт — чаму вы так ціха адышлі ў нябыт? Са старых багданаўскіх могілак, з высокага пагорка, добра бачна зямля, што ўзгадавала вас, якую вы так шанавалі, любілі, уславілі... Я прынёс вам хрызантэмы, Фердынанд Эдуардавіч. І паклон з Варшавы, ад дачкі Яніны. Яна працуе ў Нацыянальным музеі. Быў я і ў Кракаве, хадзіў па яго гулкіх завулках, успамінаў вас. Вы ж тут жылі, працавалі. Вы любілі Кракаў, стары брук якога памятае вашы абцасы.

Учора вечарам маладая паштарка прынесла мне пісьмо з Варшавы. Яно ад Яніны. І цяпер, Фердынанд Эдуардавіч, я ведаю пра вас намнога больш, чым раней.

**З ЛІСТА ПАНІ ЯНІНЫ: «Мой бацька нарадзіўся ў Багданаве і быў адзіным сынам у сям'і. Атрымаў вельмі добрае выхаванне. З маладых гадоў, акрамя польскай, вывучаў таксама нямецкую, французскую мовы, шмат маляваў. Захаваліся малюнкі шасцігадовага Фердынанда. У 1892 годзе паступіў у Пецярбургскую Акадэмію мастацтваў. Меў там шмат таварышаў, але найбольш зблізіўся з Вільгельмам Пурвітам — латышскім пейзажыстам. Быў у добрых адносінах з Рыловым. У час канікулаў выязджаў самастойна пісаць пейзажныя эцюды. Майго бацьку цікавіў тады марскі пейзаж — ён двойчы пабываў у Крыме, на берагах Балтыкі. Дыпломная работа бацькі аб'ядноўвала некалькі карцін, дзве з якіх былі кампазіцыямі, а трэцяя («Вясна») адлюстроўвала прыроду Багданава. Пазней яна была набыта П. Трацяковым для сваёй славутай галерэі...»**

У Нацыянальным музеі Варшавы я папрасіў паказаць мне Рушчыца. «Усё, што мы маем, — удакладніла экскурсавод,— ці маеце цікавасць да пэўных работ?» — Усё, але спачатку «Зямлю».

...Неба — як жыццё: хмурнае і халоднае. Напэўна, восень або ранняя вясна. Напяўшы спіны, стомлена цягнуць плуг валы. Што за чалавек за чапігамі? На што спадзяецца і чаго чакае ён ад лёсу? І ці чакае ўвогуле?.. На карціне толькі неба, зямля, валы і чалавек. На карціне жыццё, дакладней, яго частачка — хвалюючая, трагічная, нялёгкая. Пейзаж пісаўся ў Багданаве маладым Рушчыцам. Яму не было тады і трыццаці.

Гэта яго зорны час, які для творцаў не паўтараецца двойчы, які нельга вярнуць.

Рушчыц яшчэ не ведае, што не створыць нічога больш значнага, чым багданаўскі цыкл. Усё пазнейшае таксама будзе бліскучым, таленавітым. Але не лепшым.

**З ЛІСТА ПАНІ ЯНІНЫ: «Багданава і ваколіцы былі для Рушчыца скарбонкай творчых задум і сюжэтаў для карцін. Тут былі напісаны найбольш вядомыя яго работы. Цікавы факт: млын каля вёскі Дзесятнікі выступае як дэталь у многіх карцінах і малюнках. (Самы выдатны варыянт — «Стары млын». Ён захоўваецца ў Нацыянальным музеі Кракава).**

**У лісце сваім хачу сказаць, што бацька мой быў чалавекам эмацыянальным. Яго чаравала архітэктура Вільні, яго хвалявала народнае мастацтва, адміранне якога ён спрабаваў спыніць, бо бачыў яго вялікую эстэтычную каштоўнасць. У 1905 годзе ў час экскурсіі ў Шчорсы Рушчыц рабіў эскізы народных касцюмаў, якія ў той час насілі вясковыя жанчыны. На валожынскіх кірмашах скупляў саматканае палатно, прыгожыя жаночыя хусткі...»**

Іншы раз я перачытваю ліст Яніны Рушчыц. І заўсёды думаю аб тым, што жыццё яе бацькі — прыклад самаадданай працы ў мастацтве, рэалістычнага адлюстравання жыцця, сапраўднай павагі і любові да народа, яго традыцый і побыту. Ваколіцы Багданава з бясконцым сінім небам і журботнацiхімі жураўлінымі ранкамі чаравалі Рушчыца-хлапчука, імі захапляўся Рушчыц-мастак, сюды, да бурштынных бяроз, ён прыязджаў і паміраць. «Дарагі пан Станіслаў,—пісаў Ф. Рушчыц 26 кастрычніка 1932 года С. Ларэнцу,— ляжу і не магу ўстаць. Доктар хоча забраць у бальніцу і там паняньчыцца са мной...». Рушчыц занямог сур'ёзна. Ён не мог ужо пісаць правай рукой. Працаваў левай, і не ведаў, што толькі чатыры вясны накукуе яму ў вечаровым бары маладая зязюля. Чатыры — і ні дня болей...

## Дом з вокнамі на світанак

— Ну, то пойдзем,—сказала Марыя Іосіфаўна Ясенчык. Лёгка паднялася з лаўкі. Падзявочаму хораша завязала хусцінку. Першай ступіла за парог, моцна бразнуўшы клямкай старых, як і сама, дзвярэй.

Учора я хораша і шмат пагаварыў з бабуляй Марыляй. Сёння хацелася памаўчаць. А Марыя Іосіфаўна не давала.

— Дык, можа, бывалі калі ў нашым баку? — перапытвае яна.

Я ўсміхаюся. Мне ёсць што расказаць гэтай жанчыне... Бесклапотныя дзіцячыя забавы зводзілі нас, сакаўшчынскіх дзяцей, далёка ад роднай вёскі. У пошуках партызанскіх зямлянак вясёлай гурбой шыбавалі пад Вішнева і далей. Бывалі ў Багданаве. Садзіліся ўсёй кампаніяй на траву і чакалі цягніка. Хаваючыся ад дарослых, клалі на рэйкі старыя, з арламі, манеты, жалезныя, аджыўшыя свой век гузікі, каляровыя шкельцы... Не думалася, што праз колькі часу давядзецца яшчэ раз прайсціся старымі сцежкамі.

Полем крочым з Марыяй Іосіфаўнай на тое месца, дзе стаяў калісьці маёнтак Рушчыцаў. Цяпер тут нічога няма. Што не захавалі гады — данішчыла вайна. Астатняе сцёр з зямлі пажар у 1963 годзе. Толькі разбураныя скляпы, падмуркі, невялікі ручаёк ды старыя,як і гэтыя камяні, дрэвы нанамінаюць аб тым, што раней тут жыў чалавек...

— Хоць і лічылася вёска за Рушчыцамі,— гаворыць М. І. Ясенчык, — але людзей працы яны паважалі. Які ён быў пан!.. Так, адна назва! Фердынанд, дык ён зямлёй і не цікавіўся, усё болей па Расіі раз'язджаў. А я тады пры двары

# Знайсці твар горада

Мінск — старажытны горад, ды слядоў глыбокай даўніны ў ім амаль не засталося. З яго твару зніклі назвы старажытных плошчаў і вуліц, якія, здавалася, у свой час яшчэ захоўвалі дыханне тых далёкіх часоў.

Восем стагоддзяў цэнтрам горада было Замчышча. На ім у XI стагоддзі пабудаваны Мінскі замак. Да XVI стагоддзя замак меў абарончае значэнне. У 1505 годзе крымскі хан Менглі Гірэй захапіў Мінск, але не мог авалодаць крэпасцю. Некалькі стагоддзяў замак быў палітычным, ваенным, культурным і гандлёвым цэнтрам горада. У сярэдзіне XIX стагоддзя плошча страціла сваё палітычнае значэнне, але захавала ролю гандлёвага цэнтра. У 1931 годзе яна была перайменавана ў плошчу 8 Сакавіка, папоўніўшы лік безаблічных плошчаў са стандартнымі, стэрэатыпнымі назвамі. Неабходна выправіць памылку і вярнуць плошчы яе гістарычную назву. Тым больш, што ў раёне плошчы мяркуецца ўзнаўленне часткі замчышча старажытнага Мінска.

Тое ж трэба зрабіць і з плошчай Парыжскай камуны, вярнуўшы ёй ранейшую назву Траецкай, якую яна мела болей за чатыры стагоддзі. Сваё імя плошча атрымала ад царквы Святой Тройцы, збудаванай яшчэ ў XIV стагоддзі на самым высокім месцы горада. Царква была добра відаць з усіх канцоў горада і дала назву горцы, плошчы і бліжэйшаму прадмесцю. У 1919 годзе Траецкая плошча была перайменавана ў плошчу Парыжскай камуны. Цяпер, у сувязі з аднаўленчымі і рэстаўрацыйнымі работамі ў Траецкім прадмесці, актуальнасць гэтага пытання ўзрасла і патрабуе свайго вырашэння.

Не лепшае становішча і з назвамі вуліц горада. «Бацькі» горада, аддаючы даніну часу, бясконца іх перайменоўвалі. У выніку неабдуманых і скараспелых рашэнняў вуліца М. Горкага носіць пятую назву (Віленская, Траецкая, Аляксандраўская, Камунальная), па тры назвы мелі ўжо Ленінскі праспект (Захар'еўская, Савецкая, праспект Сталіна), вуліца Маркса (Новы рынак, Падгорная, Свярдлова), Энгельса (Дамініканская, Петрапаўлаўская, Валадарскага), Леніна (Францыская, Губернатарская, Маркса), Бакуніна (Бернардзінская, Манастырская, Касмадзям'янава), па тры разы мянялі свае назвы амаль усе вуліцы старога горада — Л. Талстога, Чырвонаармейская, Інтэрнацыянальная, Рэвалюцыйная, Караля і інш. Толькі адной Нямізе пашанцавала захаваць сваю гістарычную назву.

Новыя назвы вуліц не вызначаліся арыгінальнасцю, такія ж былі ў іншых гарадах. З 648 вуліц Мінска 333 (больш за палову) паўтараюць назвы маскоўскіх вуліц. («АиФ», № 32 (409), 6—12 жніўня г. г.).

Шэрагу вуліц прысвоены імёны палітычных і дзяржаўных дзеячаў, якія ў Мінску ніколі не былі і жыццё якіх не звязана з нашым горадам. Многім вуліцам прысвойваюцца назвы без усялякай аргументацыі. Напрыклад, вуліцы М. І. Пірагова (сваю назву атрымала ў 1953 годзе) і І. М. Сечанава (1957 г.) размешчаны ў раёне, дзе няма ніякіх медыцынскіх устаноў. На вуліцы К. С. Станіслаўскага няма ніводнай тэатральнай, а на вуліцы П. І. Чайкоўскага — музычнай установы.

Фармалізм у гэтай рабоце нярэдка прыводзіць да страты пачуцця меры. Бібліятэкі горада маюць імёны вядомых паэтаў і пісьменнікаў А. Пушкіна, Л. Талстога, М. Горкага, М. Астроўскага, Я. Купалы, Я. Коласа, Я. Маўра, а адна з іх носіць імя Н. К. Крупскай. Гэта быццам павага да цудоўнага педагога і выхавальніка. Аднак выклікае непаразуменне прысваенне яе імя птушкафабрыцы і швейнаму аб'яднанню. На маю думку, нельга лічыць удалым і прысваенне Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імені А. В. Луначарскага: вядома, што Анатоль Васільевіч быў дзяржаўным дзеячам, публіцыстам, крытыкам, драматургам, але не кампазітарам і не музыкантам.

Два гады назад гарадскія ўлады паспрабавалі вярнуць гістарычныя назвы некаторым вуліцам беларускай сталіцы. Але зрабілі гэта баязліва, непрадумана і непаслядоўна. Паасобныя вуліцы разарвалі на дзве часткі: за адной захавалі існуючую назву, а другой вярнулі ранейшую, гістарычную. Такая палавінчатасць не вырашала праблему, а стварыла дадатковыя цяжкасці пры пошуку адрасата.

**А. МАЛЧАНАЎ,**
**урач, кандыдат медыцынскіх навук.**
г. Мінск.

---

пакаёўкай працавала. Любілі мяне, маладую.

Надта шмат кніг меў Рушчыц. Вялікія такія кніжкі, прыгожыя. Бывала, прыйду з гулянкі-вечарынкі, спаць раніцай хочацца (жыла я ў маёнтку), а ён будзіць. «На,— кажа па-польску ці па-беларуску, усяляк умеў гаварыць,— табе, Маня, кніжку, чытай. Тады мне раскажаш, што там напісана». А я саромлюся, бо непісьменная, усяго дзве зімы і пахадзіла ў школу. На каленях болей стаяла, чым грамаце вучылася...

Марыя Іосіфаўна змаўкае. О, як соладка ёй дакрануцца да вытокаў, растрывожыць сваю памяць маладой вясной! Залатым птахам мільганулі гады, адбруялі крыніцы, адпелі, адшчыравалі над багданаўскімі ракітамі вестуны любові — салаўі. Засталася жыццёвая мудрасць, і з яе вышыні жанчына нагадвае пражытае.

— А маляваў як! — дзівіцца яна. — Як здаровы бык, дык кожны дзень з пэндзлем насіўся. Клён насупраць дома стаяў, гняздо бацянова на ім было, дык гняздо гэты Фердынанд намалюе як жывое! Аж вока разлівацца, так хораша! Мы яму падставачку вынесем у сад ці да азярца, што каля дома было. Астравок на сярэдзіне меўся. На ім любіў працаваць Рушчыц... Хадземце, я вам зараз месца тое пакажу. Вунь яно, за горачкай... Толькі нады няма ў азярцы ўжо. Была, ды сплыла...

Сплыла вада. Згарэў дом, і паспелі ўжо загаіцца чорныя выжарыны. Маўчыць час. Маўчаць старыя дрэвы, што паўвека назад бачылі і чулі Рушчыца. Толькі чаму яны старыя? Якраз і не. Гэта людскі век адструменіў сваё, а дрэвы — яны вехі вечнасці. Яны ў самай красе і моцы. Ім яшчэ жыць ды жыць. Жыць і маўчаць. Інакш не бывае. Адзіныя, хто могуць прыпомніць той час і мастака, гэта людзі. І я слухаў іх.

**ЛЮДМІЛА ІВАНАЎНА ТУРАК: «Калі што, крыкніце, бо я ўжо недачую, дзве вайны перажыла, гэта не жартачкі. Здароўя няма, але вам пра Рушчыца раскажу, што ведаю. Міласцівым чалавекам ён быў. Калі згарыць хата ў каго, то лесу дарма дасць. Пад новы год прыедзе, бывала, дамоў, людзей да сябе зазаве (ён любіў кампаніі), сталы загадае паставіць, павіншуе ўсіх са святам, дзецям падарункі раздасць. Не скупы быў Рушчыц... Бывае, спаткаеш пана дзе на вуліцы і ўжо ідзеш, каб руку пацалаваць яму — мода раней такая была. Дык Рушчыц рукі не дасць, а сам мяне ў галаву пацалуе... Гаспадар мой Гаўрыла Андрэевіч ў маёнтку сталяром быў. Паламаецца што дзе, дык ён адрамантуе. Курыў многа мужык мой, Фердынанд яму попельніцу падарыў. Яна і цяпер ёсць. Памяць... Вось толькі паленцаў некалькі ў печ пападкіну і пакажу».**

**УЛАДЗІСЛАВА ІОСІФАЎНА ГАРДЗЕЙ: «Я вось вам што зараз раскажу. Можа, не чулі яшчэ. Маёнтак Рушчыцаў стаяў трохі воддаль ад вёскі. Адзін мураваны быў дом, другі з дрэва. Той, дзе сталовая. Значыць, як заходзіш у сталовую, дык каля дзвярэй, па левай руцэ, рускія салдаты намалёваны былі ва ўвесь рост, са стрэльбамі. Я і пытаюся ў Фердынанда: «Чаму, кажу, пан намаляваў іх тут, ды яшчэ такіх прыгожых?» А ён мне: «Я, Уладзіслава, надта рускіх салдат люблю». І як ішоў абедаць, дык заўсёды гаварыў: «Добры дзень, салдацікі».**

**ЯНІНА ЛЮДВІКАЎНА РАДВІЛОВІЧ: «Выйдуць кабеты вясковыя на зажынкі, дык і Фердынанд у поле прыходзіць з жонкай. Мы вянкі з каласкоў плялі, ім дарылі. Пасля ўсе разам песні пяём. Хочаце паслухаць адну з іх? Ну, дык спяю зараз. Яе Рушчыц асабліва любіў...**

**Пажалі жыта,**
**Пажнем і ярку.**
**Прыйдзем да панавага**
**Фальварку.**
**Да фальварку новага,**
**Да пана добрага.**
**Ці рад, пан, вянок прымаці**
**І гасцей дараваці?**
**Абдымі, пан, паню мацней,**
**Дык будзе жыта гусцей!**

— Ну, а зараз мы пакажам вам карціну Рушчыца,— сказалі мне ў Багданаве на развітанне.

— У вёсцы захаваліся работы земляка? — не паверыў я.

— А што тут дзіўнага. Яго тут памятаюць і шануюць...

І павялі мяне па няшырокай вуліцы ў адну з вясковых хат. І паказалі вялікую карціну. І сказалі назву — «Святы Міхаіл». І расказалі гісторыю яе стварэння. Усё расказалі: і дзе маляваў Фердынанд Рушчыц палатно, і калі, і хто бачыў гэта, і як перадаў людзям...

Я паверыў. Хацеў парадаваць Яніну Фердынандаўну і адправіў у Варшаву фотакопію. «Што датычыцца карціны, здымак якой вы прыслалі, то гэта не работа майго бацькі,— праз колькі часу адпісала мне Яніна. — І касцёл у Вішневе ён не афармляў, а толькі паказаў яго архітэктуру і інтэр'ер у некаторых карцінах і малюнках...».

Так рушацца легенды.

Але сам факт яе існавання мяне парадаваў і да шчымлівасці ўсхваляваў. Як жа трэба любіць мастака-земляка, каб вось так, усёй вёскай шчыра верыць у тое, чаго не было! Я не стаў тады расчароўваць багданаўцаў. Няхай жыве ў іх сэрцах цудоўная казка, няхай радуе іх, няхай майскай вясёлкай зіхаціць адчуванне свята. Няхай родзіць і не бяднее на хлеб зямля, з якой чэрпаў тэмы і задумы самабытны мастак. У аднолькавай ступені ён любіў працавітых багданаўскіх сялян і руплівых палякаў з-пад Варшавы, шумныя вуліцы Кракава і маўклівыя руіны Крэўскага замка, маляўнічыя пагоркі Валожыншчыны і зялёныя дубравы Катавіцы. Творчасць Ф. Э. Рушчыца ў роўнай ступені належыць абодвум народам-суседзям, народам-братам.

*Леанід* **АНОП.**

---

# Фёдар Міхайлавіч ЯНКОЎСКІ



13 лістапада 1989 года пасля цяжкай, працяглай хваробы на 72-м годзе жыцця памёр вядомы беларускі пісьменнік, заслужаны дзеяч навукі БССР, доктар філалагічных навук, прафесар, член КПСС Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі.

Ф. М. Янкоўскі нарадзіўся 21 верасня 1918 года ў вёсцы Клетнае Глускага раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і.

Пасля заканчэння ў 1936 годзе Рагачоўскага педагагічнага тэхнікума працаваў настаўнікам Буцавіцкай школы Мінскага раёна. У 1939 годзе скончыў завочна Мінскі настаўніцкі інстытут. У час Вялікай Айчыннай вайны — разведчык, начальнік разведкі партызанскага атрада «Грозны» на Міншчыне.

Пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў працаваў адказным сакратаром рэдакцыі глускай раённай газеты «Сацыялістычная вёска», настаўнічаў у Глускай сярэдняй школе. Скончыўшы Гродзенскі педагагічны інстытут, выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Радашковіцкай сярэдняй школе, вучыўся ў аспірантуры. З 1953 года працаваў выкладчыкам, а з 1956 па 1982 год — загадчыкам кафедры беларускага мовазнаўства Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага.

Шырока вядома яго літаратурная творчасць. Кнігі Ф. М. Янкоўскага «Абразкі», «Прыпыніся на часіну», «І за гарою пакланюся», «Радасць і боль», «З нялёгкіх дарог», «Само слова гаворыць» пазначаны высокай грамадзянскасцю, любоўю да чалавека, да роднага краю. Ён услаўляе подзвіг народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны, дружбу савецкіх людзей.

Ф. М. Янкоўскі ўнёс вялікі ўклад у развіццё беларускага мовазнаўства і літаратуразнаўства, пра што сведчаць шматлікія кнігі: «Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы», «Дыялектны слоўнік», «Беларускае літаратурнае вымаўленне», «Крылатыя словы і афарызмы», «Пытанні культуры мовы», «Роднае слова», «Беларуская фразеалогія», «Гістарычная граматыка беларускай мовы» і інш.

Выдатны педагог, выкладчык Ф. М. Янкоўскі выхаваў плеяду таленавітых філолагаў. Ва ўсіх кутках рэспублікі працуюць выхаванцы Фёдара Міхайлавіча.

Ф. М. Янкоўскі прымаў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. Ён з'яўляўся членам рэвізійнай камісіі Саюза пісьменнікаў БССР, членам рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, выбіраўся членам парткома і вучонага савета педінстытута, узначальваў рэспубліканскае метадычнае аб'яднанне мовазнаўцаў.

Баявыя і працоўныя заслугі Ф. М. Янкоўскага адзначаны ордэнамі Чырвонай Зоркі, Айчыннай вайны I ступені, «Знак Пашаны», медалямі, Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

Светлая памяць пра Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага, пісьменніка, камуніста, вядомага даследчыка роднага слова, чалавека шчодрай душы, назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**В. А. Пячэннікаў, Н. М. Мазай, У. Д. Атрошчанка, П. К. Краўчанка, А. У. Русецкі, М. І. Дзямчук, Я. К. Вайтовіч, А. І. Бутэвіч, Я. І. Скурко (Максім Танк), К. К. Атраховіч (Кандрат Крапіва), В. У. Адамчык, Р. І. Барадулін, І. А. Брыль, Г. М. Бураўкін, В. У. Быкаў, А. І. Вярцінскі, Н. С. Гілевіч, А. С. Грачанікаў, А. А. Жук, С. І. Законнікаў, В. В. Зуёнак, В. А. Каваленка, В. А. Казько, У. А. Калеснік, Ц. В. Крысько (Васіль Вітка), А. П. Кудравец, А. А. Каратай (Максім Лужанін), І. Я. Навуменка, У. П. Някляеў, П. Е. Панчанка, Н. Е. Пашкевіч, І. М. Пташнікаў, Б. І. Сачанка, І. Д. Сіпакоў, І. Г. Чыгрынаў, І. П. Шамякін, А. П. Жалязоўскі, В. П. Супрунчук, А. Ц. Караткевіч, У. В. Тугай, С. А. Адамовіч, М. С. Яўневіч.**

# І ў маёй сям'і скруха

**Я не быў непасрэдным вучнем Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага. Розныя прафесіі, здавалася б, нават розныя сферы інтарэсаў. Проста сустракаліся, ды і то найчасцей пры выпадковых акалічнасцях. Абменьваліся думкамі. Іншы раз тэлефанавалі адзін аднаму. Яшчэ радзей — пісалі паштоўкі.**

**Дык чаму ж так глыбока, назаўсёды ўвайшоў ён у маё жыццё? Мова... У маім уяўленні ў рэспубліцы былі дзве ўстановы — Інстытут мовазнаўства Акадэміі навук БССР і Фёдар Янкоўскі. Апошняму я заўсёды аддаваў перавагу, хоць ён і не быў увенчаны ніякімі акадэмічнымі званнямі. А як рупліва, дбайна, па-падзвіжніцку ён збіраў народныя дыяменты, як адчуваў гук, водар роднай мовы. І як усіх нас нястомна вучыў гэтаму.**

**Сёння вельмі вялікая армія беларускага настаўніцтва — вучні Янкоўскага. Яны нясуць светлае, добрае людзям. Яму пашчасціла мець сваіх выхаванцаў, вучняў. Але сярод іх патрапляліся і тыя, хто адыходзіў убок, нават здраджваў. Ведаю, гэта балюча раніла чыстую, сумленнейшую душу Фёдара Міхайлавіча. Ды і вельмі караціла яго жыццё. Спрадвечны парадокс: тыя, хто сэрцам успрыняў запаветы настаўніка, — нясуць гэтыя запаветы менавіта ў сваіх сэрцах. А тыя, хто здраджваў, — паласуюць не сваё, а настаўнікава сэрца.**

**Прафесар жа Янкоўскі, перасільваючы душэўны боль, крочыў далей. І да ўсяго ў яго была справа, да ўсяго даходзілі рукі. Фёдар Міхайлавіч усё бачыў, разумеў, і, як толькі мог, выкіроўваў людзей на добрую дарогу. Чалавек найвышэйшай адукаванасці і інтэлігентнасці, духоўнасці, мяккі, сціплы і вельмі ранімы, ён па праву стаўся нашым гонарам і сумленнем.**

**Дзіўная рэч. Мы ніколі не сустракаліся сем'ямі, мае і Янкоўскага блізкія нават незнаёмыя, а ў маёй сям'і сёння скруха ад найвялікшай страты.**

**Анатоль САБАЛЕЎСКІ.**

**Саюз пісьменнікаў БССР глыбока смуткуе з прычыны смерці пісьменніка, заслужанага дзеяча навукі БССР, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, члена КПСС Фёдара Міхайлавіча ЯНКОЎСКАГА і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

## *Музам на пацеху*

Мікола ГІЛЬ

# ПАКРЫСЕ ДАЙЦЕ ЎСЕ

У НДІ Віктара Сяргеевіча паважалі. Любіць дык, мусіць, не любілі, а паважаць — паважалі. Зрэшты, на любоў Віктар Сяргеевіч і не прэтэндаваў. Хіба ён дзеўка красная ці маладзіца адзінока-няшчасная? Ён старшы навуковы супрацоўнік, а ў дадатак — муж і бацька дваіх дзяцей. От хай і любяць яго дзеці, жонка ну і яшчэ, можа, сёйтой, ды пра гэта, пра апошняе, ніхто не знае-не ведае, нават тыя самыя жонка і дзеці. А паважаць? Чаму ж яго, Віктара Сяргеевіча, і не паважаць? Для павагі ў яго ўсё ёсць. І званне, і пасада, і ўзрост. Не аксакальскі, дзякуй богу, але — узрост. Большы, чым быў у самога Ісуса Хрыста, калі яго на крыж успёрлі. Так што, як той казаў, майце ласку, чаго і вам зычу ад душы.

Быў, вядома, час, калі павагі гэтае не было. А ў каго яна была ў маладыя, скажам, у студэнцкія гады? Ён тады і Віктарам Сяргеевічам не быў. Віцем бегаў. Як сябрукі яго — Васямі, Пецямі, Лёнікамі. Ды, калі па праўдзе, ён ужо і тады праяўляў задаткі, якія абяцалі ў будучым... Што абяцалі, цяжка сказаць, аднак жа — абяцалі. Што ён, Віктар Сяргеевіч, мае на ўвазе, якія, канкрэтна, задаткі? А хоць бы здольнасць марыць! У маладосці, як вядома, усе летуценнікі. Іх, зялепушнікаў, хлебам не кармі, а дай памарыць, памахаць крыламі, якія вырасталі за спіной надта ж лёгка і хутка. Аднак жа і мары розныя бываюць. Васі, Пеці, Лёнікі марылі пра далейшую вучобу, пра тое, як будуць рухаць наперад айчынную навуку, а яшчэ — пра каханых, якія будуць акрыляць і натхняць іх на навуковыя адкрыцці, а да яго, да Віці, прылятала зусім іншая мара. Зрэшты, ці прылятала? Нешта не чуў ён шолаху яе крылаў. Яна хутчэй сціпла прыходзіла. Альбо нават і прыпаўзала. Хіба ў гэтым справа? Галоўнае, што мара ягоная была не эфемерная, а рэальная, нават, можна сказаць, матэрыяльная. У яе толькі пачатак быў, выбачайце, ад д'ябла. Мефістофельскі пачатак. Ён, Віця, як і доктар Фаўст, гатоў быў прадаць душу д'яблу, але не за маладосць. У яго яна, маладосць, была і без д'ябла. У яго не было — грошай! Дык вось. Добра было б прадаць душу д'яблу, а ўзамен атрымаць ад яго тое, што Ямеля атрымаў ад злоўленага ім шчупака: здзяйсненне жаданняў! Вось тады ён, Віця, быў бы шчаслівы. Пляваў бы ён на Васяў, Пецяў і Лёнікаў з усімі іхнімі ружовымі і салодкімі марамі! Ён бы здзейсніў усяго толькі адно-адзінае сваё жаданне: каб кожны чалавек з усіх людзей, што складаюць насельніцтва краіны, даў яму капеечку. Усяго капеечку! Ад гэтага хто-небудзь пабяднее? Смешнае пытанне! А яму, Віцю, колькі прываліла б? Падлічым. Чалавекаў у краіне 270 мільёнаў. Значыць, у яго аказалася б 2 мільёны 700 тысяч рублёў. І — дзякуй, людцы! Больш яму не трэба. Нават, калі па праўдзе, дык і зашмат. Ён згодзен і на тое, каб атрымаць сваю капеечку толькі з тых, што працуюць. Працуючых у краіне недзе 100 мільёнаў. Значыць, яму перападзе ад іх — чаго ніхто нават і не заўважыць! — мільён. На ўсе ягоныя гады хопіць і яшчэ дзецям дастанецца.

Пра дзяцей ён таксама марыў. Матка сваіх дзяцей у яго была на прыкмеце. Дачушка (адзіная, дарэчы) універсітэцкага дацэнта. Не красуня, але і не недарэка. Як на ролю каханкі, дык, верагодна, не прыдатная, а на ролю жонкі — самы раз. А калі ўлічыць, што ў дадатак да яе прыплюсоўваецца сталічная прапіска і кватэра, дык дацэнтава дачушка не проста жонка, а цымус.

Д'ябал, які займаецца купляй душ, яму ўсё не трапляўся. І таму Віця пачаў актыўнічаць на шлюбным фронце. Дацэнтаву дачушку к пятаму курсу змог ачмурыць. Трошачкі і з вучобаю падцягнуўся — хвастатым у кватэру дацэнта доступу няма. Скончыліся ягоныя намаганні шчасліва: здабыў і жонку, і кватэру, і — нечакана для самога сябе — яшчэ і аспірантуру.

А пасля яе трапіў Віця (выбачайце, ужо не Віця, а Віктар Сяргеевіч) у НДІ, дзе проста не мог не заслужыць павагі саслужыўцаў. Працаваў ён, як усе, пакрысе (Гэтая формула стала своеасаблівым дэвізам інстытута, паролем, які даваў магчымасць пазнаць свайго. Супрацоўнікі нават адкінулі прэч звычныя «Добрай раніцы!» ці «Прывітанне!», а здароўкаліся, прыходзячы на работу, гэтак: «Пакрысе?» — «Як усе!» І шчасліва пры гэтым усміхаліся), ананімак не пісаў, плётак не разносіў, а ў дадатак — не курыў і амаль не піў. Чаму ж не паважаць такога прыстойнага ва ўсіх адносінах чалавека?

Ну, а пра хобі Віктара Сяргеевіча ніхто ў НДІ нават і не здагадваўся. Бо калі б хто здагадаўся, быў бы гвалт. Саслужыўцы напэўна перасталі б паважаць Віктара Сяргеевіча. Зрэшты, мо і даравалі б. Палічылі б звычайнай чалавечай слабасцю і — даравалі б. Мы ж умеем дароўваць звычайныя чалавечыя слабасці, хоць часам яны вунь чым абарочваюцца. Для грамадства, скажам...

Вы хочаце ведаць, якое ў Віктара Сяргеевіча хобі? Па сакрэту скажу. Яно ў яго яшчэ з тае пары, калі ён быў Віцем. Але, але, са студэнцкіх гадоў. З таго часу, калі ўпершыню прыпаўзла да яго мара пра капеечку. Аднак жа мара пра капеечку — гэта яшчэ не сама капеечка. І Віця пачаў ажыццяўляць сваю мару, не дачакаўшыся сустрэчы з д'яблам. Ён разважаў зусім прымітыўна. Калі вы не хочаце ці, больш правільна, не даяце самі мне сваёй капеечкі, я проста вазьму яе. Не ўва ўсіх, вядома. У тых, у каго — змагу.

І пачаў браць. Пачаў правяраць чужыя кішэні. Правяраў з толкам. У каго знаходзіў дзве капеечкі — браў адну. У каго намацваў два рублі — браў адзін. Ну, а калі ў пальцах адчуваў не два і не тры рублі, а пятнаццаць, скажам, ці дваццаць, чырванеў, але браў пяцёрку. Альбо, калі не мог наступіць на горла ўласнай песні, — выбачайце, калі не мог стрымацца, браў сем, ці восем, ці дзевяць рублёў. Звычайна роўнага ліку не любіў. Лічыў, што круглы лік — не к дабру. Прападзе дзесятка ў чалавека — чалавек можа спахапіцца, а тры, пяць, сем рублёў — тут іхні гаспадар і ўсумніцца можа: а ці былі яны ў яго, ці не патраціў ён іх на штонебудзь, а ці не вытрас таго траяка з кішэні разам з насоўкай ці расчоскай? Падумае так чалавек і — супакоіцца...

Вось гэтае хобі прыйшло разам з Віктарам Сяргеевічам і ў НДІ. Разгарнуцца з ім тут было яму куды больш магчымасцей, чым у студэнцкім інтэрнаце. Як-ніяк, студэнцкія стыпендыі — не аклады малодшых ды старшых навуковых супрацоўнікаў, а тым больш заглабаў ды начальнікаў груп. Грошы ў іхніх кішэнях не выводзіліся, ці, калі быць шчырым да канца, амаль не выводзіліся. Вось ён і бярэ.

Не верыце? Папытайцеся ў самога Віктара Сяргеевіча. Вунь ён ідзе па калідоры. Ідзе, прыглядаецца, які кабінет пакінулі незамкнёным даверлівыя і чэсныя калегі і калежанкі. Ідзе, а ў плечы яго падштурхоўвае інстытуцкі дэвіз, праўда, трошачкі перароблены ім, Віктарам Сяргеевічам. Замест «Пакрысе, як усе» ён у яго набыў такое гучанне: «Пакрысе дайце ўсе!»

Мікола ЧАРНЯЎСКІ

# НА АДЗІН МАТЫЎ— ПРА КААПЕРАТЫЎ

Кааператыў за ўсё як след
бярэцца, і не марна:
быў надвячоркам
туалет,
а з ранку ўжо —
кавярня.

Усім бы ўвішнасці такой —
хадзілі б каралямі.
Дзе пахла нечысцю,
брыдой —
запахла ўраз
рублямі.

Кааператыў гняздзечка звіў,
ад нас —
не за сцяною.
Кааператыў
усіх здзівіў,
але найперш —
цаною.

Кааператыў за ўсё як след
бярэцца —
ўсё ён можа:
ёсць грошы —
цешчы на той свет
пайсці хутчэй паможа.

Ёсць грошы —
ён жа над труной
з табою пагалосіць.
Слязу сатрэ
адной рукой,
другой —
дадаць папросіць.

Чаму я ўсё
пра негатыў,
бо людзі ж — не святошы?
Чаму ў радках
адзін матыў —
пра грошы ўсё,
пра грошы?

Бо ў справе ўсёй,
бо ў працы іх
увішнай і паўсюднай
матываў іншых,
не такіх,
чамусьці
мала чутна.

Ці ўсё ідзе ад дабраты?
Ці ў радасць іх з'яўленне?
Ці чулі пра кааператыў
спагады
і
сумлення?



Мал. А. ГУРСКАГА.

Станіслаў Ежы ЛЕЦ

# З «Непрычасаных думак»

Той, хто перажыў трагедыю, не быў яе героем.

●

Здараецца, што лаўры пускаюць карані ў галаву.

●

Абодва персанажы чорныя, але якія розныя фарбы!

●

На брудэршафт з Сакратамі п'юць цыкуту.

●

«Твор вытрымаў выпрабаванне часам». Трэба ўказаць — якім.

●

Няшмат хто з людзей XIX стагоддзя прадбачыў, што пасля яго прыйдзе XX.

●

Не ўсе феніксы, адрадзіўшыся з попелу, апавядаюць пра сваё мінулае.

●

Мара рабоў: кірмаш, дзе можна купіць сабе гаспадара.

●

Ар'ергард колішняга авангарда — гэта зазвычай авангард новага ар'ергарда.

●

Шэдэўр зразумее нават дурань. Але ж наколькі інакш!

Пераклаў з польскай Уладзімір АРЛОЎ.

## НА БЛАКІТНЫМ ЭКРАНЕ

З 20 ПА 26 ЛІСТАПАДА

21 лістапада. 20.05

**«РОДНАЕ СЛОВА»**

Моўныя праблемы ў вясковай школе імя П. Глебкі — першы сюжэт праграмы. Размову вядзе журналістка Алена Аўрынская.

Адбудзецца сустрэча з Янкам Тарчэўскім, стрыечным унукам Ф. Багушэвіча, які жыве ў Польшчы.

У чарговым выпуску надаецца шмат увагі самому слову. Старонка «Моўныя афёры», тэледослед-назіранне пра цікаўнасць да слова і роздум пісьменніка А. Асташонка пра яго кнігу «Фарбы душы».

Апошні сюжэт прысвечаны словам і паняццям, якія звязаны з восеньскім абрадам «Дзяды».

21 лістапада. 21.55

**«ЛІРА»**

Белавежская пушча — велізарны скарб не толькі ў Беларусі, але і ва ўсёй Еўропе. Аб тым, як захаваць і аднавіць запаведнік, вядуць гаворку навукоўцы і супрацоўнікі гаспадаркі «Белавежская пушча».

24 лістапада. 18.45

**III УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ**

«Шануйце песні свае»

Народныя спевакі — сям'я Скідан з вёскі Дзеражычы Лоеўскага раёна.

24 лістапада. 19.20

**ГАВОРЫМ ПА-БЕЛАРУСКУ**

Перадача 6-я.

24 лістапада. 19.35

**«ДЗВІНА»**

Літаратурна-мастацкі часопіс з Віцебска.

Журналіст С. Рублеўскі раскажа пра стварэнне ў Віцебску аддзялення Таварыства беларускай мовы. Адбудзецца знаёмства з экспазіцыяй музея, прымеркаванай да юбілею народнага пісьменніка Беларусі М. Лынькова. Новы 64-ы сезон у тэатры імя Я. Коласа: прэм'еры, праблемы, меркаванні. Удзел бяруць артысты Ф. Шмакаў, М. Цішачкін і загадчыца літаратурнай часткі тэатра С. Дашкевіч.

24 лістапада. 23.10

**НАШЫ ГОСЦІ**

«Тум-балалайка». Камерны музычны яўрэйскі тэатр.

25 лістапада. 18.00

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Перадача асвятляе апошнія падзеі літаратурнага жыцця рэспублікі. Пісьменнікі С. Законнікаў, А. Вярцінскі дзеляцца думкамі аб развіцці нашага грамадства. Паэт Л. Дранько-Майсюк чытае свае вершы. Пра літаратурнае аб'яднанне «Отечество» расказвае пісьменнік А. Сульянаў.

26 лістапада. 15.35

**ЭКРАН: ПРАБЛЕМЫ, ГЕРОІ...**

Пра набыткі, праблемы і клопаты студыі мастацкіх фільмаў імя Ю. Тарыча гавораць яе кіраўнік В. Тураў, кінарэжысёры М. Пташук і Б. Шадурскі. У перадачы будуць выкарыстаны ўрыўкі з мастацкіх стужак «Наш бранявоезд» і «Высокая кроў», з дакументальнай карціны «Віцебская справа».

26 лістапада. 19.15

**ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ**

Вершы Ю. Бармуты. Чытае артыстка Т. Баўкалава.




«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АТ 00469 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Індэкс 63856 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.